# НАВІНКІ ВІДЭАСТУДЫІ «СТОПЛУКАФІЛЬМ». С.12


# НАША НіВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №20 (177) 15 ТРАЎНЯ 2000 г.


## Пераход у Брузгах закрываецца

З ініцыятывы Польшчы з 1 жніўня на тры месяцы будзе зусім закрыты памежны пераход «Кузьніца—Брузгі» на беларуска-польскай мяжы пад Горадняй. Палякі маюць рэканструяваць ягоную польскую частку. Пад гэты час уся нагрузка прыпадзе на пераход «Бераставіца—Баброўнікі», піша БелаПАН. У 2000 годзе Эўрасаюз даў Польшчы грошы на рэканструкцыю пераходу. Разам з тым Брусэль адмовіў Беларусі ў дапамозе на правядзеньне такіх сама працаў на ейнай тэрыторыі.

## БНФ за перанос Усебеларускага зьезду на восень

13 траўня прайшоў Сойм БНФ. Вінцук Вячорка на ім надта хваліў веснавыя акцыі апазыцыі, якія, як ён сказаў, пазбавілі ўлады таго аргумэнту, што ідэі незалежнасьці ў Беларусі падтрымліваюцца толькі «кучкай адмарозкаў». Сказаў ён таксама, што, дзякуючы менскім пратэстам, зьмянілася і стаўленьне да беларускай праблемы на Захадзе, у прыватнасьці, кангрэс ЗША ўпершыню запатрабаваў ад Расеі адмовіцца ад падтрымкі Лукашэнкі.

На Сойме абмяркоўвалі таксама будучы Ўсебеларускі зьезд. Юры Хадыка адзначыў, што такое важнае мерапрыемства патрабуе грунтоўнай падрыхтоўкі, а таму прапанаваў улетку правесьці пашыранае паседжаньне аргкамітэту зьезду, а сам зьезд — недзе напачатку восені. Такую заяву й прынялі.

Б.Т.

## ТБМ пікетуе

Віцебская гарадзкая рада ТБМ наладзіла 13 траўня пікет да пятых угодкаў рэфэрэндуму аб мове. 10 пікетоўцаў выправілі ўскалыхнуць горад, дзе з 3027 першаклясьнікаў усяго 43 навучаюцца па-беларуску. Адстоялі дзьве гадзіны ды наслухаліся ад землякоў усяго — ад шчырых словаў падтрымкі да адкрытых пагрозаў.

А 14 траўня тая ж гарадзкая рада ТБМ разам зь літаратурным музеем ва ўрачыстай абстаноўцы падводзілі вынікі абласнога дзіцячага конкурсу «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай». Дзеля юных літаратараў, мастакоў ды публіцыстаў дарослыя сябры ТБМ правялі экскурсію па горадзе, а пасля дзеткі глядзелі пастаноўку паводле Караткевічавай «Ладзьдзі роспачы».

А.Т., Віцебск

# БЯЗ ЖАЛЮ НІ СТРАХУ



Фота Дзяніса Носава

*Учора ўвечары на Кастрычніцкай плошчы прайшлі народныя гуляньні на знак памяці пра антыбеларускі рэфэрэндум 1995 году. Людзі сьпявалі, танцавалі, гутарылі. Было каля тысячы чалавек, найбольш старыя і дзеці. Сьпявалі Андрусь Мельнікаў, Зьміцер Бартосік, сябрыны школьнікаў і маладафронтаўцаў, хор Народнага Фронту, вельмі хораша запяваў Павал Севярынец. Быў і акардэаніст. Дзеці насілі сьцяжкі, грамадоўцы прыйшлі зь бела-чырвонымі гвазьдзікамі. Толькі да палацу культуры прафсаюзаў не падыходзілі, бо шыльды каля яго паведамлялі, што адтуль скульптуры падаюць: савецкі Менск паціху рассыпаецца.*

Барыс Тумар

## Няма спакою Сувораву

Якраз напярэдадні Сьвята Перамогі нехта запэцкаў рудою фарбай навюсенькі бюст Суворава ў Віцебску. Толькі-толькі гэты бюст паставілі каля ваенкамату на той самы пастамэнт, адкуль паўтары гады таму быў зьнік ягоны папярэднік «Суво-раў-1».

Віцебскія дзяржаўныя газэты шырока спавяшчалі, што новы «Сувораў-2» зь якаснага бэтону ды вагою ў 315 кг быў зроблены на грошы, сабраныя работнікамі таго самага ваенкамату. Але ў горадзе ходзяць чуткі, што ў іх знайшоўся спонсар, які даў на Суваорава грошы, каб «адкасіць»ад войска... Ва ўсялякім выпадку, адмывалі «Суворава-2» сапраўды супрацоўнікі ваенкамату. Ды разважалі, ці не ўсталяваць каля Суворава які «Пост №1» з адборных вайскоўцаў або прыгожых міліцыянтаў у плямista-блакітнай форме.

А.Т., Віцебск

## Сьвечкі ў памяць мовы

У Магілёве адбылася акцыя, прысьвечаная гадавіне «моўнага» рэфэрэндуму 1995 году. Актывісты маладзёвых арганізацыяў паставілі сьвечкі памяці ля мэмарыяльнай дошкі Сьпірыдону Собалю.

## Мазурык Мазурэк

Журналіста газэты «Новэ паньства» Робэрта Мазурэка, які наведваў Шклоў, затрымалі побач з домам, дзе жыве жонка Лукашэнкі Галіна Радзівонаўна. Гэта ўжо традыцыйнае месца затрыманьня замежных грамадзянаў. Усе яны хочуць паглядзець на горад, які лічыцца радзімай Аляксандра Лукашэнкі, і на жытло першай беларускай ледзі, якая працягвае жыць у Шклове. Мазурэка патрымалі дзьве гадзіны ў пастарунку і адпусьцілі.

Сымон Глазштэйн, Магілёў

## Помнік Карвату ў Берасьці

5 траўня адкрылі ў Берасьці помнік лётчыку Карвату, хто ёсьць першым Героем Рэспублікі Беларусь пасьмяротна. Ён загінуў, адводзячы ад вёскі пад Баранавічамі самалёт, што падаў. Карват выгадаваўся ў берасьцейскай школе нумар 8, якой цяпер надалі ягонае імя. Ягонага ж імя ёсьць вуліцы ў Менску й Берасьці.

Сяржук Пруднікаў, Берасьце

# ПЯЦІГОДКА РУЙНАВАНЬНЯ

Рыгор БАРАДУЛІН

Некалі камуністыя плянавалі пяцігодкі й рапартавалі Крамлю пра іх выкананьне. Праўда, у народзе па-свойму ўспрымалі гэныя пяцігодкі. І пяялі:

*Бруха гола, лапці ў клетку,*
*Выканаем пяцілетку.*

Усё было пабудавана на рапартах, размерана на пяцігодкі. І цяперашняя нэо, цяперашняя ўладатрымцы ў Беларусі могуць зноўтакі, як і ў тыя, на жаль, недалёкія гады, рапартаваць Крамлю, што пяцігодка па зьнішчэньні ўсяго беларускага, усяго нацыянальнага, пасьпяхова, нават датэрмінова выканана.

Усё беларускамоўнае выцесьнена з тэлерадыё, з прэсы, са справаводзтва, аж да шыльдаў на крамах. Кавярні ўжо называюцца пакупецку, па-расейску. Была «Хвілінка», стала «Печки-лавочки», была «Траецкая», стала «Разгуляй», была «Тарас на Парнасе», стала «Георгиевское» — усіх заменаў не пералічыш. Прывучаюць і вока й вуха беларуса забыцца на ўсё сваё, наскае, крэўнае, каб беларус не пачуваў сябе ў Беларусі як дома.

Так званае дзьвюхмоўе нагадвае паштэт па-польску, конь з курапаткай, у якім усяго пароўну, напалову — адзін конь, адна курапатка.

Пагалоўна, павальна зачыняюцца і без таго рэдкія беларускамоўныя клясы. Усё гэта іншым словам як этнагенацыд не назавеш.

Пад час рэфэрэндуму пісаў я такую дурноту:

*Кот праводзіў рэфэрэндум,*
*Клапаціўся пра мышэй.*
*Мышы верылі легендам*
*І пішчэлі ўсё цішэй.*

Пасьля рэфэрэндуму й пішчэць льга толькі па-расейску ці на трасянцы з паўночна-ўсходнім вымаўленьнем.

Пра сьцяг і казаць не даводзіцца. Падцыраваны, савецкі, некалі дазволены й зацьверджаны ў Крамлі. Хоць улада тутэйшая й спавядае панслявізм, а колеры сьцягу не славянскія, я ўжо не кажу, што яны не беларускія.

*Відаць, нас мала перылі,*
*Што цягне да імпэрыі*
*Пад сьцягам мусульманістым,*
*З палітбюро іваністым.*

Гэта не сакрэт, што цяперашні герб у народзе называюць «капустай». Гэта ім замянілі сьвятую для кожнае беларускае душы «Пагоню». А мяноўна «Пагоня» й Бел-Чырвона-Белы сьцяг асьвечаныя вякамі, амытыя крывёю прашчураў нашых у барацьбе за волю, за Беларусь непадлеглую.

Мне асабіста цяперашні герб нагадвае прычоску аднаго вядомага чалавека. Такія ўжо асацыяцыі выклікае ён у мяне. Гэта не абраза, а маё ўспрыняцьце. На асацыяцыі і ўспрыняцьце пакуль яшчэ афіцыйнае забароны няма.

Штодня, пасьпешліва, павіжоўску, нашая нацыянальная сымболіка выкарчоўваецца са сьвядомасьці. Ажно чакаеш, што неўзабаве будуць новыя ініцыятывы, пабальшавіцку рашучыя.

*Няма сумневу,*
*Ён дайно гатоў,*
*Указ чарговы,*
*Як заўсёды, сьмелы.*
*Што трэба перафарбаваць буслоў,*
*Бо кожны бусел*
*Бел-чырвона-белы.*

Фарбавалі ж пры камуністых траву да прыезду партыйных паханаў...

## Прамэнад на пантонах

Яшчэ пазалетась у Наваполацку на Дзьвіне зьбіраліся пачаць рамонт адзінага ў горадзе аварыйнага моста. Але з-за браку грошай работы ня раз пераносілі. Толькі напрыканцы мінулага году мост нарэшце зачынілі. Аднак няцяжка ўявіць, колькі з-за гэтага паўстала праблемаў. Асабліва ўскладнілася жыцьцё ў жыхароў пасёлку Баравуха, які летась стаў часткаю гораду. Жыхароў Баравухі транспарт давозіў толькі да берагу Дзьвіны, далей пешшу трэ было перайсьці мост і перасесьці на іншы гарадзкі аўтобус. Праблема яшчэ больш абвастрылася, калі ў красавіку з моста зьнялі ахоўную агароджу: цяпер па ім маглі прайсьці толькі каскадэры.

Дапамаглі спэцыялісты чыгуначыных войскаў. У сьціслыя тэрміны яны наладзілі пантонную пераправу. Пры канцы красавіка першыя ахвотныя перайшлі на левы бераг ракі мэталёвым плывучым мостам. Нечакана новая камунікацыйная артэрыя сталася ўлюбёным месцам для шпацыраў. Машыны па пантоне праяжджаюць у экстраных сытуацыях — хуткая дапамога, пажарныя або міліцыя. Затое людзі ідуць бесьперапынна, асабліва ў выходныя.

**Васіль Кроква, Полацак**

## Кормяць быдла раз на тры дні

На прадпрыемстве «Паўднёвае», што ў вёсцы Вулька-Гарадзішчанская ля Пінску, штодзень здыхае некалькі дзясяткаў сьвіней з-за недахопу кармоў.

Гэтае прадпрыемства ў свой час лічылася амаль што ўзорным. Магутнасьці яго разьлічаныя больш чым на 50 тысячаў галоваў. Цяпер жа агульнае пагалоў'е сьвіней на «Паўднёвым» — крыху больш за 30 тысячаў. Цяпер прадпрыемства мае менш за палову ад неабходнай колькасьці кармоў, таму сьвіней кормяць толькі раз на тры дні. У выніку за першыя тры месяцы бягучага году ад голаду памёрла больш за 1600 сьвіней. Сытуацыя будзе пагаршацца, бо кармоў няма дзе ўзяць. Аналягічная сытуацыя склалася і на сьвінагадоўчым комплексе ў вёсцы Плотніца, што на суседняй Століншчыне (у міжрэччы Прыпяці і Стыра, тая, што пры канцы XVIII ст. карткі час была цэнтрам Пінска-Зарэчненскага павету).

Гэта сапраўдны крызыс у айчыннай жывёлагадоўлі. Кароткатэрміновую выгаду ад гэтага маюць хіба што мясаперапрацоўчыя прадпрыемствы. Аднак цікава, што на Пінскім мясакамбінаце мяса з «Паўднёвага» амаль не атрымліваюць — там сьвіней адразу купляюць камэрцыйныя структуры па больш высокіх цэнах. «Мы нарыхтоўваем сыравіну збольшага ў Лунінецкім і Столінскім раёнах, дзе ў калгасах таксама колюць сьвіньні, але камэрцыйныя структуры ў іх мяса купляць ня хочуць з-за значнай радыяцыйнай забруджанасьці», — паведамілі ў адміністрацыі Пінскага мясакамбінату.

**Аляксей Дзікавіцкі, Пінск**

## Забаранілі паэтычныя чытаньні

Традыцыйныя паэтычныя чытаньні, што праводзяцца ўвесну маладзёвай фракцыяй БСДП (Народная Грамада), на гэты раз не адбыліся, бо Менгарвыканкам замест запытанага месца ў сквэры Янкі Купалы прапанаваў арганізатарам перанесьці мерапрыемства на пл.Бангалор. Арганізатары ўсё ж мяркуюць правесьці каля помніка Янку Купалу адно чытаньне. Увогуле ж акцыя задумвалася як сэрыйная: гэта мусілі быць «Тры крокі вясны». Першы крок пад назовам «Нашы крылы» ня ўдаўся, мо атрымаецца наступны.

## Душаць «Пагоню»

На днях было вынесена другое папярэджаньне гарадзенскай газэце «Пагоня». Рэдакцыя выданьня абвінавачваецца ў тым, што друкуе на сваіх старонках аб'явы незарэгістраваных арганізацыяў. Разам з уладамі на газэту ціснуць і мясцовыя фашысты. Рэдактар газэты Мікола Маркевіч атрымаў у свой адрас пагрозы ад гарадзенскага РНЕ: невядомыя пагражалі «дабрацца» да сям'і журналіста, калі яшчэ раз на старонках выданьня будзе зьмяшчацца інфармацыя, якая абражае РНЕ.

*Усю першую палову траўня не было дажджу, а рэкордныя прымаразкі (да 16 градусаў ніжэй нуля на балатах Лунінеччыны) панішчылі рунь на больш як 2000 квадратных кілямэтраў. Тарфянішчы гараць, пажарнікі гасяць іх, калгасьнікі перасяваюць, за сухую ральлю збожжа не чапляецца, Лукашэнка чухае патыліцу. Вёсны штогод стаюць усё больш няроўнымі, на вёсцы — безнадзейнасьць і здранцьвеньне. Садзіць на тарфяніках нельга, можна толькі травою засяваць, а сеюць і садзяць — плян! А тады то высушыць, то вымаразіць, а ўсё ўраджаю няма. Толькі дурнёў ня сеюць і ня жнуць. Яны самі растуць.*




## КГБ бярэцца за студэнтаў

На мінулым тыдні перад навучэнцамі Аршанскага мэханіка-тэхналягічнага тэхнікуму выступіў супрацоўнік КГБ Сяргей Мацюхін, які распавёў прысутным пра небясьпеку ўдзелу ў няўрадавых арганізацыях, такіх, як Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў, Малады Фронт, «Зьвяз», пагражаў зьніжэньнем адзнак на экзамэнах сябрам НДА. Пры канцы сустрэчы Мацюхін пакінуў усім нумары тэлефонаў, па якіх студэнты могуць зьвяртацца, і параіў не «займацца дурасьцямі». Супрацоўнік КГБ, мяркуе ў сваім бюлетэні Беларуская Асацыяцыя Рэсурсавых Цэнтраў, так адрэагаваў на актывізацыю дзейнасьці няўрадавых арганізацыяў у Воршы, узбуйненьне маладзёвага адраджэнскага руху, развал БПСМ у найбуйнейшым тэхнікуме гораду пад уплывам мясцовай суполкі ЗБС.

**Б.Т.**

жарт




Малюнак Віктара Фурмана

ПАЗЫТЫВЫ

# ВЯРТАНЬНЕ СІЛЫ

Падыходзіць неяк курыца да сьвіньні дый кажа:

— Давай супрацоўнічаць!

— А што рабіць будзем? — сьвіньня пытаецца.

— Як што? Тое, што ўсім патрэбна — яечню са скваркамі.

Карацей кажучы, розны бізнэс бывае. Іншым дык і хваліцца сорамна. Сорам жа, як усім вядома, упрост зьвязаны з культурай, да якой асоба належыць.

Перамога камуністаў у Расейскай імпэрыі заклала падмурак новай культуры, пабудаванай на ідэі штодзённай гатоўнасьці бараніцца ад варожага нападу і выконваць інтэрнацыянальны абавязак у любой кропцы зямной кулі, абы пралетарыяў з-пад прыгнёту вызваліць хутчэй. КВЖД, Хасан, Халхін-Гол, Карэлія, Гішпанія, Польшча... Гэта было да Вялікай вайны.

Усясьветнае процістаяньне і гонка ўзбраеньняў парадзнілі Край са сталёвым кулаком Чырванасьцяжнай Беларускай Вайсковай Акругі і разгалінаванай вытворчасьцю сучаснай зброі. Таму крывёй нашых лепшых ваяроў палітая зямля 20 краінаў сьвету, а ў спадчыну ад СССР засталося 58 ваенных заводаў і 24 ваенных НДІ і КБ.

Называліся яны «абаронныя». Як ня стала ад каго бараніцца ды не было на каго нападаць, попыт на іхную прадукцыю ўсё зьмяншаўся і дайшоў нарэшце з 70% ад агульнай прамысловай вытворчасьці да 10%. Але ж былі недзе людзі, што далёка глядзелі. Яны ня сталі займацца тут дурацкімі прыватызацыямі і канвэрсіямі, што вы-думалі яйкагаловыя дарадцы капіталістаў.

«ВПК краіны ўдалося захаваць», — далажыў памочнік міністра прамысловасьці Беларусі ў пытаньнях працы ВПК сп.Ул.Чэкаў.

Больш за тое, ён адзначыў: «Стварэньне Саюзнай дзяржавы Беларусі й Расеі спрыяе аднаўленьню каапэрацыі ў вытворчасьці абароннай прадукцыі». Безь вялікага шуму робяць сваю справу міждзяржаўныя фінансава-прамысловыя групы «Граніт», «Электроніка», «Абарончыя сыстэмы», ціхенька рыхтуюцца ўстаноўчыя паперы на групу «Інтэрнавігацыя».

**Сёлета пастаўкі спэцтэхнікі ў Расею павялічацца ня менш, чым на 15%. З улікам сумеснага абароннага заказу і агульнай праграмы ўзбраеньняў гэтыя аб'ёмы ўзрастуць яшчэ болей, мяркуе ўрадавы экспэрт.**

З эканамічнага гледзішча выдатна атрымліваецца. Толькі нейкія брыдкія думкі ў галаву лезуць, калі бачыш, як месяць розныя людзі ва ўсім сьвеце адзін аднаго моцнай расейскай зброяй з хітрым беларускім начыньнем. Няўжо мы гэткі народ, што мусім жыць і радавацца, як недзе ваююць? Няхай мне нехта патлумачыць, дзеля чаго гэткае трэба краіне, якая зьбіраецца сябраваць з усімі па ўсіх азымутах.

Калі ж нашыя правадыры маюць сакрэтныя зьвесткі, што нехта зьбіраецца на нас напасьці, дык няхай хутчэй раздаюць зброю ўсім мужчынам і сьпяць спакойна.

**Міхал Залескі**

лісты ў рэдакцыю

## Я й палітыка

*Памятаю, як у 88-м годзе пайшоў у першую клясу сярэдняе школы, дзе адным зь першых урокаў мела быць беларуская мова. У тыя часы я нават ня ведаў, што мусіць быць такое — Беларусь і беларуская мова, бо толькі вярнуўся зь Нямеччыны, дзе бацька адбываў вайсковую службу, на радзіму.*

*Калі настаўніца віталася з намі, я зь нейразуменьнем глядзеў на яе, бо ня мог усьвядоміць, чаго яна хоча. (Мусіць, спужаўся.) Навучаньне пачалося з таго, што была намалявана велічэзная ЛІТАРА «І», якую нам рэпрэзэнтавалі як «І-беларускую». Вось тады я й спытаўся: «А какіе астальные буквы в беларускам языке?» Што й казаць, настаўніца зьдзівілася, бо ёй ня ўцяміць было, што для мяне, акрамя расейскай, усе мовы здаваліся замежнымі, а, значыць, і з собскім альфабэтам.*

*Мова мне спадабалася, мо спрацавала генэтычная памяць. Хоць ува мне цячэ й польская, і расейская кроў, але ж асноўны адсотак складае ўласна беларуская, «ліцьвінска-яцьвяскага» разьліву.*

*У пачатковых клясах зацікаўленьне моваю й беларушчынай было выпадковым, здаралася час ад часу. Але значна пазьней я аднойчы штосьці шукаў у кнігарні, калі раптам на паліцы з усялякім кніжным прадуктам натрапіў на вершы Рыгора Барадуліна, танныя ў грашовым вымярэньні, але, як аказалася пазьней, — найкаштоўнейшыя ў якасна-глыбінным. Што казаць, вершы прачытаў за адзін вечар і пабачыў дасюль нябачаную Беларусь.*

*...На белай кашулі чырвоны пісяг*
*Ад злосьці падступнага меча.*
*Бел-чырвона-белы балючы сьцяг*
*Склікае на сумнае веча...*

*Гэта быў 1992 год. Я не цікавіўся палітыкай, але, вядома, заўважыў набыцьцё незалежнасьці і ўрачыста прыемны, рамантычны сэнс верша.*

*Потым быў 1993... Путч у Маскоўіі прымусіў задумацца.*

*Калі былі прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі, я быў у вёсцы ў дзеда з бабуляю, на вакацыях. Памятаю, як ішлі на выбарчы ўчастак, як дзед пакінуў свой голас «антыкарупцыянэру і абаронцу сялянаў» і ляснуў чарку ў кавярні, што месьцілася побач. Сьвята, вядома, ёсьць сьвята...*

*Потым быў славуты рэфэрэндум, у часе якога я бесклапотна гойсаў у родным Берасьці... Палітыка, як і заўсёды, была мне «па шарабане».*

*Але ж калі пачалі здымаць сымболіку зь дзяржустановаў, я зацікавіўся, бо абурала зьнявага нацыянальнага й закіпала пытаньне: «Ці не антыбеларускія сілы дзеюць гэтак, як шматкроць здаралася ў гісторыі?»*

*1999. Памятаю, як у «Рэзанансе» пасьля няміскае трагедыі зьдзекліва прарэклямавалі газэты «шпікулянтаў на людзкой крыві й адмарозкаў». Ня ведаю, як для каго, але для мяне «Навіны» патыхнулі вясною, маладосьцю й нейкай летняй рамантыкай разам. Насамрэч паветра патыхала навальніцай.*

*...У чэрвені я здаваў экзамэны за курс сярэдняй школы, сярод якіх і беларускую мову зь літаратурай. Гэтак здарылася, што ў дзень, калі я цягнуў білет з пытаньнямі, Васіль Быкаў сьвяткаваў народзіны. Пра яго й пашчасьціла распавядаць, балазе, урачыстасьць расповеду была забясьпечаная...*

*Ня ведаю, як для каго, а для мяне мова не памерлая, яна жыцьме і гучацьме, як мае быць. Хоць я не зьнітаваны зь ёю з маленства, хоць жыву ў расейскамоўным абшары вайсковага гарадку, абразаў і кпінаў зь Беларусі ніколі не трываю, асабліва з вуснаў «тутэйшага». Калі патрэбна абараняць собскую беларушчыну, нават культура ператвараецца ў моцную палітычную сілу... Так мусіць быць і гэтак сталася.*

*Калі хрэстаматыйныя*

Сяргей ДУБАВЕЦ

# ЧАС ДЗЕЙНІЧАЦЬ!

У мінулы чацьвер адбыўся суд рэдакцыі газэты «Нашае Нівы» супраць Дзяржаўнага камітэту па друку РБ.

Усё пачалося з таго, што ведамства Міхаіла Падгайнага вынесла газэце папярэджаньне за распальваньне міжнацыянальнае варожасьці. Нагодаю стаў апублікаваны ў «Нашай Ніве» 13 сакавіка ліст чытачкі Судзілоўскай (яна, дарэчы, была на працэсе), дзе яна эмацыйна распавядала пра адчай беларускамоўнага чалавека ў цяперашнім беларускім горадзе. Такі чалавек увесь час цярпіць прыніжэньне і абразы ад суграмадзянаў і — найперш — ад органаў улады. «Ненавіджу расейцаў і зайздрошчу Чачэніі», — пісала сэрцам спадарыня Судзілоўская.

У часе судовага разьбіральніцтва акрэсьліліся дзьве супрацьлеглыя ацэнкі гэтае публікацыі. Рэдакцыя настойвала на тым, што гэта спроба абараніць СВАЁ, а судзьдзя Федарэнскі — што гэта — распальваньне нецярпімасьці да ІНШЫХ. У выніку позва рэдакцыі да Дзяржкамдруку была адхіленая. Папярэджаньне засталося ў сіле. Цяпер нам дастаткова на працягу году атрымаць яшчэ адно такое папярэджаньне, і сп.Падгайны можа ініцыяваць працэс закрыцьця «Нашай Нівы».

Па вялікім рахунку, гэта быў рацыянальны суд. Нельга пісаць у газэце: ненавіджу расейцаў. Таму і спадар Падгайны, і ягоны прадстаўнік на працэсе Антонаў, і судзьдзя Федарэнскі маюць рацыю. Гэта *абсалютная* рацыя. І можна было б увогуле не ўсчынаць разьбіральніцтва. Але вось у чым тут праблема. Ніколі справядлівае рашэньне ў такой справе ня будзе вынесена на карысьць беларушчыны. Беларушчына, паводле гэтай абсалютнай рацыі, загадзя асуджаная на паразу і выміраньне.

Рэч у тым, што заканадаўства патрабуе аднолькавага стаўленьня як да беларускай мовы, так і да расейскай. У нейкіх чыста лябараторных умовах суд мусіць дбаць пра роўнасьць і пра тое, каб адныя не казалі, што іх душаць другія. І суд дбае. Толькі ж мы не існуем у лябараторных умовах. Мы існуем ва ўмовах сёньня ўжо абсалютна адкрытага дзяржаўнага перасьледу ўсяго беларускага і поўнага прыярытэту ўсяго расейскага. Гаварыць у такіх умовах пра роўнасьць — значыць, непазьбежна выносіць несправядлівае рашэньне. Што судзьдзя Федарэнскі і зрабіў.

Суд адмовіўся разглядаць кантэкст, у якім існуе беларускамоўны грамадзянін краіны. Суд адбыўся не ў імя паляпшэньня грамадзкіх узаемадачыненьняў, а ў імя літары закону, з чаго вынікае, што нашае заканадаўства, зь ягонымі пасажамі пра роўнасьць, насамрэч падтрымлівае русіфікацыю і скіраванае на задушэньне ўсяго беларускага.

Што гэта значыць? Гэта значыць, што пра беларушчыну ці, больш дакумэнтальна, пра беларускія нацыянальныя інтарэсы сёньня дбаюць і ў прынцыпе могуць дбаць толькі прыватныя асобы, якія дзяржаўнымі органамі разглядаюцца як непажаданыя. Зразумела, што прыдушанае за два стагодзьдзі русіфікацыі беларускае пытаньне: мова, культура, гістарычная памяць, — усё гэта мусіла б сёньня мець прыярытэт у заканадаўстве краіны. Бо гэта НАША, бо яно нікому, апроч нас, не патрэбнае, бо яно сёньня занядбанае і пастаўленае на мяжу выжываньня. Такія прыярытэты існуюць ва ўсіх цывілізаваных краінах, у тым ліку і ў былых савецкіх рэспубліках, дзе сваё, нацыянальнае, атрымала пасьля развалу СССР абсалютны заканадаўчы прыярытэт — як кампэнсацыю за савецкія часы, за гады ўціску, за русіфікатарскую палітыку Масквы. Расейскую мову і культуру выдатна захаваюць, абароняць і прымножаць самі расейцы. Але ні расейцы, ні палякі, ні хто яшчэ ў сьвеце ня будзе захоўваць, бараніць і прымнажаць беларушчыну. Апроч самых беларусаў. Вось жа сёньня гэтай справай займаецца ў нас не дзяржава, а жменька нялюбых дзяржаве людзей, якія міжволі ператвараюцца ў апазыцыю, адно толькі гаворачы па-беларуску.

Па інэрцыі мы яшчэ думаем, што варта зьмяніць уладу на сваю, беларускую, і наша меншасьць ператворыцца ў большасьць. Будуць прынятыя адпаведныя законы, у якіх прыярытэт будзе замацаваны не за расейшчынай, а за беларушчынай. Але праходзяць гады, і надзея на альтэрнатыву тае, як дым.

Трэба абавязкова патрапіць на судовы працэс «Нашай Нівы», каб адчуць сваё месца ва ўласнай краіне і праўдзівыя адносіны да цябе з боку людзей і ўлады. Не судовай галіны ўлады, а проста ўлады — адзінай цяпер у нас — прэзыдэнцкай. Судзьдзя ня скажа вам — не выпендрывайся са сваім языком, як могуць сказаць у тралейбусе або краме. Судзьдзя мусіць прымаць цябе такім, які ты ёсьць. Ён толькі перапытвае: «Скажите, значит расейцы и русские — это не одно и то же?»

Зьміцер Бартосік з гэтай нагоды зрабіў выснову, маўляў суд расплюшчыў яму вочы на тое, хто ёсьць хто: расейцы — гэта русіфікатары, расіяне — гэта жыхары Расеі, а рускія — гэта проста рускія, якія жывуць у Беларусі, гавораць па-расейску і не выяўляюць агрэсіі да беларушчыны. Мы ў гэтай клясыфікацыі — проста беларусы.

Можна з гэтым пагадзіцца, але няма адчуваньня, што мы — гаспадары краіны. Ці то слабасьці нашай, нешматлікасьці, неразьвітасьці. Наша апазыцыя вельмі добра пачуваецца на мітынгах, але не як альтэрнатыўная, а як маргінальная сіла. Яшчэ лепш яна пачуваецца за мяжою. Кожнага лідэра вельмі лёгка ўявіць сабе паслом Беларусі. У асяродках, дзе зьбіраюцца беларускія эмігранты і беларускія апазыцыянэры, ужо зусім не адчуваецца мяжы, якая б падзяляла першых і другіх. На судовым працэсе гэта зьведваеш яшчэ лепей. Здаецца, прамаўляеш такія рэчы, якія складаюць ісьціну што для паляка, што для амэрыканца, а ў адказ сустракаеш няўцямны позірк судзьдзі. Толькі ж паводле ўсіх фармальных прыкметаў менавіта ён тут — гаспадар. А хто тады ты? Эмігрант? Выходзіць, эмігрант, бо лягчэй знаходзіш агульную мову з замежнікамі, чым з тутэйшымі.

Але ж і яны, тутэйшыя, што жывуць у Менску са сваімі альфарадыямі, роксамі ды расейскімі тэлеканаламі, яны таксама насамрэч жывуць не ў Беларусі, а дзе-небудзь у Варонежы. У тым, што яны робяць і гавораць, няма ані кроплі клопату або цікавасьці да спэцыфікі ГЭТАЕ зямлі. Значыць, яны таксама — эмігранты. Толькі мы — эмігранты з захаду, а яны — з усходу, з Расеі. Расейцы. Мы ў іхных вачах — якія-небудзь цэрэушнікі або натаўцы, а яны ў нашых — расейцы. Мы — апазыцыя, а яны — электарат усенароднае ўлады — вялізнага корпусу чынавенства. Корпус гэты аднародны і ўвесь «заточаны» пад адзінаўладнага кіраўніка краіны. Нарэшце кіраўнік, для якога галоўны клопат — бараніць матушку Расію — таксама ня мае ніякага дачыненьня да Беларусі як такой. Ён, праўда, не эмігрант, яму паводле статусу не паложана. Ён у гэтым раскладзе — акупант.

Такая вось клясыфікацыя беларускага насельніцтва складаецца на працэсе ў Вышэйшым гаспадарчым судзе краіны з зусім адпаведнаю гэтай клясыфікацыі назвай — Рэспубліцы Беларусь. Паводле правілаў што беларускай, што расейскай мовы, калі слова Беларусь у гэтым выпадку не скланяецца, яго трэба браць у двукосьсе — «Беларусь». «Іменем Рэспублікі Беларусь» — абвяшчае судзьдзя, і гэтае двукосьсе гучыць у ягоным голасе на поўную моц. Тое, што не перадаецца на пісьме, аказваецца, выдатна чуваць у вымаўленьні. Хто якое хоча, той такое і ўкладае ў тое двукосьсе пачуцьцё — хто іронію, хто сарказм. Так адбываецца таму, што ўсе разумеюць, што насамрэч мы жывем у Варонежы, калі хочаце, у Варонежы нумар два.

Зусім новае пачуцьцё, зь якім даводзіцца цяпер сустракацца — асабліва сярод моладзі — гэта неўсьвядомленая крыўда на згаданую другаснасьць. Бо раўналеткі з Варонежу нумар адзін слухаюць прафэсійнае прыкольнае «Русское радио», а нашым даводзіцца спажываць сурагатныя падробкі пад яго ў выглядзе ўсялякіх радыё бі-эй. Быццам мы горшыя. Старэйшае пакаленьне апошнім часам таксама неўсьвядомлена крыўдуе, што Пуцін ня наш. Прыдумалі гэтую самую РБ! Навошта? Нібы нейкі штучны бар'ер на шляху ўспрыманьня палітычных навінаў з суседняй Расейскай Фэдэрацыі.

Масе народнай больш падабаецца адчуваць сваю далучанасьць да аўдыторыі ад Бугу да Курыл, чым усмоктваць (з тым жа, праўда, маскоўскім пранонсам) правінцыйныя падробкі беларускіх масмэдыя. Магчыма, спрацоўвае яшчэ савецкі стэрэатып далучэньня да вялікае, як тады казалі, агульнасьці. Між іншым, на «Русском радио» спрацоўвае іншы стэрэатып — там цяпер кажуць, што іхнае радыё слухаюць «россияне от Бреста до Владивостока». Чуеш такое, і адчуваеш, што «ўзьяднаньне» зусім блізка. Лукашэнка раз-пораз кажа, што сувэрэнітэту ён не аддасьць, але што тыя словы, калі на інфармацыйныя, палітычныя і ўсе жыцьцядзейныя беларускія каналы ўжо фактычна надзетыя штэкеры пад маскоўскія гнёзды. Нават беларускі наварускі бізнэс ужо павярнуўся галовамі адназначна на ўсход. І не тое толькі нейкае хвілі ікс, каб Атлянтыда, што паказалася была з акіянскае пучыны, зноў зьнікла ў хвалях чужароднага, чужамоўнага, чужасьветнага акіяну. Надта ж яна цяжкая, каб утрымалі не нейкай сабе і тысячы рук энтузіястаў.

Парадаксальнае тое, што і ўласна расейская культура не выклікае ў душах нашых апанэнтаў ніякіх эмоцыяў і ня мае аўтарытэту. Даводзячы рацыю чытачкі «Нашай Нівы», якая заявіла пра сваю нелюбоў да расейцаў, што было кваліфікавана як распальваньне нацыянальнае варожасьці, я згадаў фразу прафэсара Праабражэнскага з булгакаўскага раману «Сабачае сэрца», які сказаў: «Так, я не люблю пралетарыяту». Аналягічны выпадак, які, аднак, нікому ня прыйдзе ў галаву трактаваць як распальваньне варожасьці сацыяльнае. Суд гэта не кранула. Чаму? Можа справа ў тым што Булгакаў даўно памёр? Ці таму, што зноў актуальнымі робіцца адносіны да «Сабачага сэрца», якое ў пралетарскія часы было забароненым творам? Тады патэнцыяльна ліст чытачкі Судзілоўскай праз сто гадоў можа таксама трапіць у школьныя хрэстаматыі? Тады сёньня на парадку дня нас чакае — новы Гулаг?..

Прадстаўнік Дзяржкамдруку — малады юрыст Антонаў — настойвае на інтарэсах свайго ведамства. Нашыя праблемы яму проста незразумелыя. Ён са сваімі стэрыльнымі законамі выглядае ў нашых вачах марсіянінам. Але я разумею, што ў ягоных вачах праз усе гэтыя клопаты пра нікому не патрэбную родную мову і ўсе зьвязаныя з гэтым праблемы марсіянамі выглядаем мы. Мы гаворым на розных мовах, на розных частотах, на розных хвалях, у розных канцах зямлі. Нашыя довады не перасякаюцца.

Судовы працэс канстатаваў радыкальны падзел паміж насельніцтвам Беларусі на эмігрантаў-эўрапейцаў і эмігрантаў-расейцаў. Эмігранты судзіліся з эмігрантамі. Розьніца была ў тым, што мы, хто прайграў гэты працэс, адчувалі поўную маральную перавагу. Няхай у іхных вачах мы нейкія дзівакі, эмігранты, непажаданая меншасьць. Важна, каб мы самі ня ставіліся да сябе гэтак, каб не паранілі іхны погляд на сябе як на ізгояў, што марна спрабуюць адрадзіць даўно памерлыя атрыбуты сканалае нацыі. Эміграны з Варонежу нумар два не прапануюць нам ніякае альтэрнатывы, апрача расьліннага спажывецкага існаваньня без апазнавальных прыкметаў. Іхны шлях — на Ўсход. Наш жа шлях — з Захаду. Яны сыдуць туды, куды імкнуцца. Мы — вернемся на сваю родную, спаганеную імі зямлю. І станем на ёй гаспадарамі. Таму што будучы ў меншасьці цялеснай, мы складаем у Беларусі абсалютную духовую, маральную большасьць.

На працэсе я спрабаваў давесьці судзьдзю, што распальваньне варожасьці мусіць выяўляцца ў нейкіх закліках, чаго ў нашаніўскай публікацыі і блізка няма. Судзьдзя Федарэнскі запярэчыў: А как вы объясните слова: «выхад адзін — дзейнічаць»? Баронячы расейшчыну, ён разгледзеў тут заклік да бойкі ці да пагромаў. Баронячы беларушчыну, мне такое і ў галаву не прыйшло. Я згадаў пра зачыненыя беларускія школы, а таксама пра рубрыку прыватных абвестак у газэце «Наша Ніва». Што-небудзь накшталт: «Сьвядомыя беларусы Лунінеччыны, адгукнецеся». Альбо: «ахвочыя аддаць дзіця ў беларускі садок, тэлефануйце». Вось што такое, у маім разуменьні, дзейнічаць. На жаль, свайго аптымізму, які я выношу з такіх абвестак, я ніколі не змагу перадаць судзьдзю Федарэнскаму. Бог яму судзьдзя. Нам жа і сапраўды пара дзейнічаць. ■

---

*пісьменьнікі, песьняры й мастакі, гісторыкі й навукоўцы далучаюцца да супраціву, што ж казаць пра прыхільнікаў іхнае творчасьці!*

*Творчае натхненьне ў палітычным жыцьці шмат разоў мацнейшае за штодзённую скіраванасьць позіркаў на Ўсход.*

**Сяржук Пруднікаў, Берасьце**

## Treciaja siła ü Bieraści

*U miastečku źjavilisia cikavyja ülotki sa stylizavanaj svastykaj u pravym kucie. Nalapiła ich arhanizacyja «Biely Front». Na rasiejskaj movie na ülotkach źmiaščaüsia poklič: «Kali ty słavianin i patryjot svajoj ziamli, chadzi ü «Biely Front».*

*Hetak zarhanizavalisia tutejšyja «skinheady». Toje, što kažuć, što jany amal usie üvajšli ü skład RNE — chłuśnia, bo jany tłumačać źjaüleńnie čarhovaha ekstremisckaha zhurtavańnia ü Biełarusi lozunham «White Pride!» Da apahańvańnia habrejskich śviatyniaü pakul nie dajšło, ale šmat pracy prybyło chłopcam z «Kraju».*

*Cikava toje, što šmat chto, pa maich źviestkach, sa skinheadaü razhladaü pytańnie ab uvachodzie ü «Kraj», ale niaviedańnie i niepavaha da biełaruskaje movy i spačuvańnie rasiejskim vojskam u Čačenii, što vypiestavana rasiejska-biełaruskim aficyjozam, uziali vierch. Kali admiežavańnie ad «Kraju» zrazumiełaje, to admiežavańnie ad RNE adbyłosia ź jinšych pryčynaü: skiny bajacca represijaü z boku üładaü.*

*Ciapier ułasna biełaruskim radykałam supraćstaić Front z rasisckaha «Biełaha Frontu» i RNE. Abstanoüka napružvajecca.*

**Tyler A., Bieraście**

## Адкрыты ліст да кіраўніцтва Менгарвыканкаму

*22 красавіка 2000 году кіраўніцтва Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны накіравала ў Менгарвыканкам заяўку на правядзеньне мітынгу з мэтай агітацыі за беларускамоўную адукацыю, стварэньне Беларускага Нацыянальнага Ўнівэрсытэту, а таксама з нагоды 5-х угодкаў рэфэрэндуму 1995 году. У заяўцы месцам правядзеньня мітынгу мы прапанавалі пляцоўку ля Палацу культуры чыгуначнікаў. Менавіта там адбыўся апошні мітынг ТБМ летась у верасьні. Аднак кіраўніцтва Менгарвыканкаму без узгадненьня з намі прыняло рашэньне перанесьці мітынг на пляцоўку ў парку ля пл.Бангалор. У зьвязку з гэтым кіраўніцтва ТБМ лічыць немагчымым і абразьлівым для агульнабеларускай арганізацыі, якая налічвае ў сваіх шэрагах каля 6 тысячаў сяброў, ладзіць мітынг у месцы, дзе жыхары ваколіцаў звычайна выгульваюць сабак!*

*Заняўшы такую неканструктыўную пазыцыю, новае кіраўніцтва Менгарвыканкаму рызыкуе страціць павагу значнай часткі менчукоў.*

**Старшыня ТБМ Алег Трусаў**

## Падстанцыя ўпала ахвяраю

*Паміж сталічнымі мікраараёнамі Ўсход і Ўручча за могілкамі пры шашы стаяў будынак трансфарматарнай падстанцыі. Апошнія пяць гадоў яго палюбілі графіцісты. Шмат што пісалі на сьценах, але найбольш часта «Жыве Беларусь!», «Воля або сьмерць!», «Свабоду палітвязьням!», розныя досьціпы пра Лукашэнку. Гэтыя графіці існавалі звычайна да чарговай выправы Лукашэнкі ў расейскую правінцыю — гэтай шашой ён езьдзіць у аэрапорт.*

*Напярэдадні падстанцыю цалкам бялілі. Днямі падстанцыя зьнікла — яе зьнесьлі. Праўда, насупраць таго месца, дзе яна стаяла, ёсьць бэтонная агароджа. Летась там быў надпіс «Люблю Беларусь!» Агароджу пафарбавалі жоўтым колерам. Цікава, колькі яна пратрывае?*

**Валеры Палсьцюк, Менск**


Фота IREX-ProMedia

# БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЬЦЯГ ХРЫСТА

***Пяць гадоў таму, раніцай у панядзелак 15 траўня 1995 году краіна прачнулася пасьля рэфэрэндуму. Усё было як заўжды: сонца ды птушкі, паесьці й ісьці на працу — але ў гэта нават ня верылася. Калі забаранілі бел-чырвона-белы сьцяг і «Пагоню», а беларуская мова страціла статус адзінай дзяржаўнай — здавалася, усю гэтую зямлю, увесь гэты сьвет раптам пазбавілі сэнсу. Ужо пачыналі здымаць сьцягі з дахаў дзяржаўных будынкаў — і само сэрца зрывалася, падала кожнага разу з гэтых вышыняў. Па-над намі зноў былі пустыя нябёсы.***

...Адно з віншаваньняў на сёлетні Вялікдзень я атрымаў на невялічкай паштоўцы: уваскрослы Хрыстос трыюмфальна ўзыходзіць на неба, трымаючы ў руцэ бел-чырвона-белы сьцяг. У акадэмічным Музэі старажытнай беларускай культуры, дзе вадзіў экскурсіі Юры Хадыка, такія ж абразкі XVII—XVIII ст. зьбіралі натоўпы зацікаўленай моладзі. Усё проста: белая палатніна, на якую паклалі скрываўленае цела ўкрыжаванага Ісуса, засталося людзям як знак найвышэйшае перамогі над злом і нянавісьцю — бо Хрыстос уваскрос.

Гэты знак, белую палатніну з чырвоным крыжом, пачалі шырока выкарыстоўваць як сымбаль усяго хрысьціянства ў сярэднявечнай Эўропе. Сьцяг Хрыста зьяўляўся на вайсковых харугвах, мачтах караблёў і зь цягам часу, у розных варыяцыях, увайшоў у аграмадную колькасьць гербаў, вымпэлаў і нацыянальных сьцягоў на ўсёй эўраатлянтычнай прасторы ў Старым і Новым сьвеце. Дастаткова згадаць, што Ангельшчына дагэтуль мае сьцяг белы з чырвоным крыжом (і гэта яго спалучэньне зь сінім, таксама крыжовым, шатляндзкім штандарам, стварае брытанскі «юніён джэк»), а сьцягі ўсіх пяці скандынаўскіх краінаў утвораныя паводле розных колеравых камбінацыяў асноўнага сьцягу Хрыста. Калі ёсьць штосьці, што лучыць на элемэнтарным, кодавым, сымбалічным узроўні ня толькі Эўропу, але і ўсю заходнюю цывілізацыю, — дык гэта, бясспрэчна, ён, адзін з самых важных і ключавых хрысьціянскіх знакаў.

Многія беларускія геральдысты, што вывучалі крыніцы зьяўленьня бел-чырвона-белага сьцягу, пісалі пра «крыж сьвятога Юр'я», пра індаэўрапейскія архетыпы, сялянскія ручнікі, польскія прапары й яшчэ немаведама што, але чамусьці не заўважалі тае жывое сілы, тае імклівасьці й настойлівасьці, зь якімі ўсе дзесяць вякоў беларускае гісторыі скрозь праціная **Сьцяг Хрыста.** Полацак — прыняцьце хрысьціянства, Сафія, Барысавы крыжы. Вялікае Княства Літоўскае, бел-чырвона-белая «Пагоня», Грунвальд, белыя харугвы з чырвоным крыжом. Бітва пад Воршай — бел-чырвона-белыя сьцягі Хрыста. Каталіцкія і ўніяцкія сьвятыні — паўсюдна сьцяг Уваскрасеньня. Праваслаўныя патрыярхі (прыгледзьцеся, нават сёньня) — з абавязковай бел-чырвона-белай паласою ў рызах. І Касьцюшка, і Каліноўскі — пад сьцягамі зь белі й чырвані. І вось, у 1918-м (як некаторыя пішуць, «абсалютна нечакана»), зьяўляецца **той самы** бела-чырвона-белы сьцяг Беларускай Народнай Рэспублікі. Праз пахаваньне ў Курапатах канца 30-х, праз пакуты і кроў, вайну й партызанку, разруху й застой — да Курапатаў 1988-га, дзе ўпершыню пасьля дзесяцігодзьдзяў цемры ўспыхвае зноў.

Сымбаль чысьціні й ісьціны, болю й любові, веры і ўваскрасеньня, ён лунае, нібы анёлавы крылы. «Зямля пад белымі крыламі» — ці не пра гэты сьцяг пісаў Караткевіч. У самыя трагічныя, моцныя, пікавыя моманты беларускай гісторыі нечакана выблісквае, асьвятляе далягляды, як азарэньне, бел-чырвона-белы сьцяг — і зноў нагадвае нам пра тое, што адбылося 2000 гадоў таму.

Столькі крыві... Як суцэльная рана, жахліва барвовы, сьсечаны плецьмі, апляваны, зьнясілены, Хрыстос прабіраўся праз нянавісьць і глум Богам выбранага, роднага народу — на Галгофу. Жывая кроў і боль адкупленьня — сьмерць і грэх аж вар'яцелі навокал, аж шалелі ў гэтым апошнім натоўпе. Разрывалі й дзялілі вопратку. Рагаталі й зьдзекаваліся так, што ані рыданьняў, ані ўсхліпаў вучняў чуваць не было. І вось Ён, бездапаможны, працяты цьвікамі, скрываўлены — на крыжы над усімі.

Ён паміраў некалькі гадзінаў пад нясьцерпным сонцам. Страшнае пакараньне Рымскай імпэрыі: чалавек шточас губляе прытомнасьць, задыхаецца, бо расьцятыя грудзі зводзіць сутарга, напінаецца, каб каўтнуць паветра. Сэрца лопаецца ад напругі...

«Збылося! — усклікнуў Ісус і, нахіліўшы галаву, аддаў дух» (Яна 19:30).

Так нараджаецца найвялікшая перамога ў гісторыі чалавецтва — збаўленьне, царства нябеснае для людзей і жыцьцё вечнае.

Так нараджаюцца сьцягі. У Вялікую нядзелю вучні, якія прыбеглі да магілы, убачылі ў ёй адно палатніну з суцэльнай крываваю паласою. Бел-чырвона-белы сьцяг, які сьведчыў пра ўваскрасеньне Хрыста.

Дзе-дзе, а ў сымбалях выпадковасьцяў не бывае. Бел-чырвона-белы сьцяг Хрыста — самы галоўны для Беларусі, самы важны й знакавы сымбаль. Самы сьвяты вобраз нашай гісторыі й нашага Адраджэньня. Няма нічога, што можа яшчэ мацней выразіць зьмест мінулага, унікальнасьць сёньняшняга часу і веру ў будучыню. У адзінай трыядзе беларускіх нацыянальных сымбаляў — гімн, сьцяг і герб — бел-чырвона-белы сьцяг займае цэнтральнае месца. Гімн «Магутны Божа». Сьцяг Хрыста. Герб «Пагоня» — белы вершнік на чырвані, уладнае й жывое імкненьне з крыжом Эўфрасіньні на шчыце. Уся трыяда, уся тройца — як адзіная формула: «У імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа...» Ці ёсьць яшчэ ў якой іншай нацыі штосьці падобнае?

Наколькі гісторыя Беларусі апошніх стагодзьдзяў нагадвае Новы Запавет: блуканьні між грэшных і мытнікаў, страшныя выпрабаваньні, дзе выжываюць толькі вера, любоў і надзея, ганеньні і здрада. Беларусь рабавалі і рвалі на часткі, абвінавачвалі й судзілі, аплёўвалі й раскрыжоўвалі. Беларусь аддавала ўсё, што было, даравала й малілася, пакутліва памірала за сваіх дзяцей, была пахаваная і ўваскрэсла — пад бел-чырвона-белым сьцягам Хрыста.

Сёньня дзеці й падлеткі ў школах на пытаньне пра бел-чырвона-белы сьцяг пачынаюць расказваць пра параненага князя на полі бою, які, размахваючы скрываўленым бінтом, павёў за сабой ваяроў. Казка, словаў няма, рамантычная — але навошта мітычны князь, навошта нейкая бітва, калі значна глыбейшы, шматкроць пакутнейшы вобраз закладзены ў самой ідэі, у сутнасьці сьцягу Хрыста!

Сёньня над урадавымі будынкамі й дзяржаўнымі ўстановамі гэтага сьцягу няма. Дзякуй Богу — усё беззаконьне мае адценьне чырвона-зялёнага. Але за кожную хвіліну, якую краіна пражыве пад нашым бел-чырвона-белым сьцягам, несьці адказнасьць будзем ужо мы самі. Адказнасьць за чысьціню й сумленнасьць кожнае справы, за праўдзівасьць і справядлівасьць кожнага кроку, за любоў і веру ў кожным памкненьні. За бель і кроў, зь якой дасталася нам незалежнасьць, бель і кроў, якія так лёгка запляміць. І Вясна-2000, што разгарнулася рухам шматтысячных маніфэстацыяў, і хваля бел-чырвона-белых сьцягоў на хакейных арэнах у расейскім Піцеры, і паўсюдныя сыгналы бел-чырвона-белых налепак на сьценах — усё гэта вымярае цяперашні стан нашай адказнасьці. Бел-чырвона-белы сьцяг Хрыста, асабістая рана, баліць нам увесь час — і гэта значыць, што нацыя жыве.

**Павал Севярынец**

дзе варта быць

## Горадня алімпійская

21 траўня ў Горадні распачнецца Алімпіяда. Ініцыятарам яе стаў Малады Фронт. Мерапрыемства будзе цягнуцца тры тыдні. У яго рамках адбудуцца спаборніцтвы па футболе, баскетболе, валейболе, стральбе й іншых відах спорту, шахматныя й шашачныя турніры. Пройдзе конкурс на лепшую карыкатуру, конкурс бардаўскай песьні. Абяруць Міс-Алімпіяду. Узяць удзел пажадалі сябры розных гарадзенскіх арганізацыяў — такіх, як Маладая Грамада, Грамадзянскі Форум, Незалежны Моладзевы Рух, анархісты. Прыедуць паўдзельнічаць у конкурсах маладафронтаўцы з Мастоў, Ваўкавыску ды іншых гарадоў.

## Рок-настальгія

У беларускім відэаклюбе (Румянцава, 13) 20 траўня паказваюць запіс пазамінулай «Рок-каранацыі-98».

## Фэномэн

16 траўня ў Беларускім калегіюме (Бібліятэка імя Янкі Купалы, вул.Харужай 21) Кастусь Тарасаў чытае лекцыю пра набалелае — «Фэномэн аўтарытарнай улады ў беларускай гісторыі». Пачатак а 18.30.

## Кілер па-польску

У панядзелак 15 траўня ў аўд.571 Беларускага дзяржаўнага пэдагагічнага ўнівэрсытэту Польскі кінаклюб паказвае чарговы фільм. Хоць ён і мае назву «Кілер-2», ягоны герой — не прафэсійны забойца, а просты кіроўца таксоўкі Юрэк Кілер. Аднак у фільме ёсьць і помсьлівыя мафіёзі, і прывабныя дзяўчаты, і сапраўдны кілер, якога адмыслова выпісалі з замежжа, каб ён расправіўся зь Юрэкам. Пачатак а 18.30.

## Арганістка з Украіны

19 ды 20 траўня ў залі камэрнай музыкі Філярмоніі Ганна Макрова з Украіны дае канцэрты арганнай музыкі. Прагучаць творы Баха, Дубуа, Босі, Назарава.

## Анёлы ў пошуках неба

Амбасада Францыі праводзіць на гэтым і наступным тыдні трэці этап сэрыі кінапаказаў «Маладое францускае кіно». Рэтраспэктыва пройдзе пад агульным назовам «Анёлы ў пошуках неба». У праграму ўвайшлі фільмы 1998 году. Фільмы пройдуць 15 і 17 траўня ў менскім Палацы культуры вэтэранаў.

**Алесь Кудрыцкі**

## Царкоўнае начыньне

У Мастацкім музэі адчынілася выстава адрэстаўраваных абразоў, фрагмэнтаў дэкору касьцёлаў і цэркваў, а таксама сьвятарскай вопраткі, кадзілаў і келіхаў XVII—XVIII ст. Праз некалькі гадоў, калі музэй, нарэшце, дабудуе свой новы корпус, гэтыя творы старога беларускага мастацтва стануцца асновай ягонай экспазыцыі.

## Музэй Ваньковіча

12 траўня споўнілася 200 гадоў з дня народзінаў выбітнага мастака Валентыя Ваньковіча. У Менску, на рагу Інтэрнацыянальнай і Энгельса, адчыніўся музэй «Дом Ваньковічаў. Культура і мастацтва першай паловы XIX стагодзьдзя». Сярод ягоных экспанатаў — партрэтная галерэя XVII—XIX ст., мэбля і посуд той эпохі. Копіі партрэта Валентыя Ваньковіча і партрэта ягонага сябра Адама Міцкевіча напісаў польскі мастак Рышард Прымке.

**Юрась Барысевіч**

спорт

# «ДЫНАМА» ПАДАГРЭЮЦЬ

Летась, раньняю вясной, калі беларуская футбольная зборная мелася гуляць дома са швэйцарцамі, дык ува ўсіх чыноў пачалі балець галовы ад адной праблемы: дзе гуляць? Ніводзін беларускі стадыён, нават «Дынама», ня мог прыняць такую адказную сустрэчу. На ўсіх без вынятку арэнах панавала такое тыповае беларускае балота, што пускаць туды замежных гасьцей неяк не хацелася. Але набліжаўся канец сакавіка, людзі проста разьмяталі квіткі, ды футбольнаму кіраўніцтву трэ было тэрмінова шукаць выйсьце. Яно было проста геніяльным — вырашылі разумнікі сушыць дынамаўскую гразюку... верталётам... Каля тыдня жыхары навакольных дамоў трывалі фёдараўскую сыстэму добраўпарадкаваньня газону. А колькі было спалена паліва! Гразь, аднак, хоць і падсохла крыху, але не пазелянела.

Што ж, відаць, такія азіяцкія мэтады гаспадараньня адыходзяць у нябыт. У канцы траўня сёлета на менскім 45-тысячніку пачнецца мантаж сыстэмы цеплападагрэву газону. Як думаеце, чыя фірма зоймецца дынамаўскай траўкай? Швэйцарская! Выглядае на тое, што жыхары альпійскай краіны пасьля матчу леташняй вясной на раскіслым беларускім газоне вырашылі даць нам драбнічку эўрапейскай цывілізацыі. Вось дзякуй! А то сарамаціліся б увесну 2001-га перад нарвэжцамі...

**Богусь Біятляпёнак**

«Наша Ніва» — гэта 12 старонак інфармацыі і камэнтароў пра падзеі ў Беларусі і сьвеце, беларускі погляд на ўсё, паўнакроўная беларуская культура, не зьнявечаная савецчынай, жывы голас незалежнага беларускага грамадзтва. Дык падпішэцеся, калі ласка! Падпісны індэкс 63125. Падпіску на «НН» прымаюць на любой пошце, у любым шапіку «Белсаюздруку».

Падпіска на чэрвень для менчукоў на шапік ці краму «Белсаюздруку» каштуе 390 руб.

Менчукі! Падпіска на шапік вельмі зручная: абыходзіцца таньней, чым купляць, а забіраць можна хоць у панядзелак, хоць калі хочаш, нават праз месяц. Прымаюць яе амаль ва ўсіх шапіках.

Падпіска па краіне на II-е паўгодзьдзе каштуе:
на месяц — 638 рублёў;
на 3 месяцы — 1914 рублёў;
на 6 месяцаў — 3828 рублёў.




«НАША НІВА». ВЫДАЕЦЦА З 1906 ГОДУ.

Часопіс ARCHE
чытае кожны культурны беларус
За 6 нумароў у другім паўгодзьдзі 2000 году — 3960 рублёў
падпісны індэкс 00345
ПАДПІСКАЮ ТАНЬНЕЙШЫ

Рэдакцыя газэты запрашае на працу рэклямнага агента
Тэл.: 227-78-92

Здымем памяшканьне пад офіс да 20 м²
Тэл.: 227-78-92

*Словы* Laroux, Ethan, Marker, Melissa, Chernobyl, Class, Footer, Form, Happy99, *на першы погляд, нічога ня лучыць. Але ўсё гэта — дзясятак самых шкодных кампутарных вірусаў 1999 году. 2000 год распачынаецца новым рэкордам — вірус, пяшчотна названы* I Love You, *быў запушчаны ў інтэрнэт 4 траўня ды ўжо ў першыя шэсьць дзён нарабіў стратаў ва ўсім сьвеце ажно на 6,7 мільярдаў даляраў. Нашкодзіў ён і брытанскаму парлямэнту, і Пэнтагону, і ЦРУ.*

# 10 КІЛЯБАЙТАЎ КАХАНЬНЯ

Працуе вірус паводле прынцыпу Траянскага каня: на кампутар па кампутарнай пошце прыходзіць ліст памерам каля 10 кілябайтаў, названы *I Love You*, адмыслова, каб зьвілася спакуса яго прачытаць. Той, хто чытаў рамантычную кампутарную цыдулку, потым заракаўся круціць каханьне па інтэрнэце — праграма-вірус зьнішчала ўсю інфармацыю на яголых кампутары ды рассылалася на адрасы сяброў небаракі-атрымальніка. Вірус «падхапілі» дзясяткі мільёнаў кампутараў ва ўсім сьвеце.

Нам гэтыя кампутарныя праблемы часам падаюцца ня блізкімі, пагатоў што ў Беларусі вірус не нарабіў бяды. «Ды траса з гэтым інтэрнэтам, — скажа нехта. — Жылі безь яго і далей неяк пражывем». Але пра радыё ды тэлебачаньне такое таксама калісь казалі. Пажывем-пабачым.

Цікава іншае: каму ды для чаго трэба пісаць тыя вірусныя праграмы?

У аўтарстве апошняга інтэрнэт-мікробу падазраюць шмат каго, у тым ліку й нашых суседзяў-літоўцаў. Але найбольш падазраюць філіпінскага студэнта Гусмана. Дакладней, былога студэнта. Вірус папоўз па сусьветным павуціньні за дзень да цырымоніі ўручэньня дыплёмаў у кампутарным каледжы АМА, што ў сталіцы Філіпінаў Маніле. Праўда, дыплёму Гусман так і не атрымаў. Дыплёмнай працай маладога праграміста была кампутарная праграма, вельмі падобная да вірусу, што прымусіў дзясяткі мільёнаў людзей праклясьці ўсе гэтыя файлы, мэгабайты ды клявіятуры. На палёх фінальнай справаздачы Гусмана яголы выкладчык паставіў рэцэнзію: «Мы ня робім праграмаў-узломшчыкаў». Студэнт мусіў разьвітацца з каледжам. Цяпер яголай біяграфіяй цікавіца ФБР. Гусман ужо прызнаў, што мог па неахайнасьці выпусьціць у інтэрнэт «дыплёмны» вірус.

Што рухае стваральнікамі кампутарнай пошасьці? Што адчувае чалавек, які сядзіць за кампутарам, праз які можна вандраваць па ўсім сьвеце, размаўляць зь любым з многіх мільёнаў такіх самых блукальнікаў у глябальным павуціньні? Часам — прыналежнасьць да чалавецтва, а іншым разам — адно адчужанасьць і адзіноту. Сьвет, ператорбаны ў плястмасавую, набітую мікрасхемамі каробку на тваім стале, не шкада пакрыўдзіць. Асабліва, калі ён пакрыўдзіў цябе. Нават пасьпяховых маладыя людзі з заходніх краінаў знаходзяць сабе ворагаў у выглядзе сёньняшняга велізарнага, скваплівага, карпарацыйнага сусьвету. Кампанія «Майкрасофт» — чым не прадстаўнік такой гегемоніі? Менавіта яна, дарэчы, спрычынілася да такіх пачварных наступстваў кібэр-атакі. Амаль што ўсе галоўныя вірусы (*I Love You* ў тым ліку), былі напісаныя на *Microsoft's Visual Basic* — мове праграмаваньня, створанай адмыслова пад майкрасофтаўскае праграмнае забесьпячэньне. Зараз большасьць кампутараў выкарыстоўвае праграмныя прадукты, створаныя пад кіраўніцтвам Біла Гейтса. Адбылося прыкладна тое самае, што можа здарыцца тады, калі ўсю плянэту засеяць, скажам, адным гатункам бульбы: пару гадоў радзіць будзе няблага, але потым нейкая парша ці нэматода паніпчаць усё пасаджанае. На шчасьце, не бракуе іншых расьлінаў і гатункаў, і калі хвароба нападае на які адзін зь іх, дык іншыя аказваюцца больш стойкія, таму чалавецтва яшчэ ня вымерла з голаду.

Гакеры — грамада пярэстая. Падпольная група *GRAMMERSoft*, да якой належаў Гусман, займалася тым, што стварала і прадавала студэнтам кампутарныя праграмы, якія яны павінны былі самі напісаць у якасьці кантрольных працаў. Карацей, Гусман зь сябрамі зараблялі грошы. Але ня ўсе гакерскія групоўкі маюць такія празаічныя мэты. Так, у адказ на балканскую кампанію NATO расейскія гакеры скаапэраваліся ды разбамбілі шмат амэрыканскіх сайтоў. Старонкі магутных вайсковых арганізацыяў звычайна маюць добрую ахову ад такіх нападаў, а таму пад гарачую руку расейскіх саюзьнікаў Сэрбіі часьцяком траплялі сайты самых бяскрыўдных амэрыканскіх грамадзкіх арганізацыяў.

Гісторыя вірусу *I Love You* працягваецца. У панядзелак ці аўторак філіпінскае Нацыянальнае бюро расьсьледаваньняў зробіць даклад паводле аналізу дыскетаў, знойдзеных у кватэры Гусмана. Мабыць, тады ўсё стане на свае месцы. А пакуль у сьвеце ўжо гуляюць новыя вэрсіі вірусу ды расьцуць прыбыткі кампаніяў, якія займаюцца распрацоўкай і продажам антывірусных праграмаў. Калі ў вас ёсьць кампутар, дык лепш завесьці для яго картку, як у паліклініцы, ды пэрыядычна праходзіць абсьледаваньне на вірусы, многія зь якіх праўляюца не адразу. Дарэчы, ходзяць чуткі, што «дактары» адмыслова ўсталёўваюць у свае праграмы новых мікробаў, каб кліентаў-пацыентаў ня меншала. Кібэр-хаос, выкліканы апошнім вірусам, сьведчыць яшчэ пра адну цікавую акалічнасьць: знайшліся дзясяткі мільёнаў людзей, якія прагнуць каханьня. Замест таго, каб сьцерці з памяці кампутару ліст з назвай *I Love You*, яны прачыталі яго. О, адзінота, колькі людзей пякуць табе літаньне!

**Алесь Кудрыцкі**



# ВАС ВІТАЕ МАСКВА!

Дарагі дружа, ты прыехаў у Маскву — «краіну, дзе ўсё «рэальна». А ў мяне ёсьць файны шанец правесьці цябе Масквою. І пачнем мы вандроўку па Маскве «ад печкі».

Выходзіш зь цягніка, які толькі што даставіў цябе на Беларускі вакзал... Мэталёвы голас дыктаркі вітае цябе на чыстай беларускай мове: «Прыбыў цягнік...» Цябе адразу ж паглынае маскоўскі людзкі натоўп, які ўмомант прымушае забыцца на ўсё тое, што засталося ззаду, такое роднае й блізкае. Маскоўскі тлум сваімі пачварнымі лапамі падхопліваe і адразу робіць цябе сваёй адзінкаю, пазбаўленай нейкае асаблівасьці — ператварае ў часьцінку шэрай масы...

Але вернемся на Беларускі вакзал. Там цябе сустрэнуць ня толькі родныя ды знаёмыя, але й натоўп тых, хто жадае за кошт тваёй кішэні трошкі падзарабіць.

Па-першае, гэта насільшчыкі, напэўна, самыя шчырыя з гэтае катэгорыі: усё ж у іх ёсьць пэўныя, усталяваныя тарыфы, таму давяраць ім можна сьмела, але толькі да таго часу, як яны пачнуць прапаноўваць паслугі іх знаёмых кіроўцаў таксовак ці танныя кватэры (гэта хутчэй за ўсё будзе падманам).

Па-другое, гэта тыя самыя кіроўцы таксовак, дакладней, так званыя «падсадчыкі» — тыя, хто проста даводзіць да таксоўкі, а потым бярэ за гэтую паслугу грошы, дый таксоўка ня самая танная нават па маскоўскіх мерках (апошнім часам такія зьявіліся і ў Менску). Калі таксоўка сапраўды вельмі неабходная, лепей адысьці ад будынку вакзалу і лавіць машыну — масквічы зарабляць любяць, таму праблемаў з гэтым ня будзе. Адзінае што — ніколі не пытайцеся, колькі гэта будзе каштаваць, кошт лепей назваць самім (так прынята і таньней).

Па-трэцяе, гэта міліцыянты, якія адразу пачнуць пытацца, што ў торбах і рэгістрацыю (не павальна, канечне, а на выбар). Таму лепей квіткі не выкідваць — зь імі законна ў Маскве можна знаходзіцца да трох дзён (калі няма рэгістрацыі, канечне).

Яшчэ адной непрыемнасьцю будуць так званыя «лахатроншчыкі» — тыя, хто будуць прапаноўваць бясплатныя прызы і г.д. Гэта, напэўна, самая непрыемная катэгорыя з тых, хто сустрэне цябе ў Маскве.

Вельмі нахабныя, навязьлівыя, неадчэпныя. Здаецца, пра іх «бізнэс» ведаюць усе, але ўсё адно яны знаходзяць сабе «кліентаў».

Таксама сустрэнуць цябе трохі наводдаль ад цягніка гандляры рознаю дробязьзю — кіслым малаком і г.д. — гэта твае суайчыньнікі, што прыехалі трохі падзарабіць.

Яшчэ сустрэнуць цябе людзі, што жывуць дзесьці паблізу вакзалу (туды іх не пускаюць) і прылеглай да яго станцыі мэтро — бамжы і прафэсійныя жабракі. Пра першых нічога асабліва дрэннага, па-за своеасаблівым пахам, сказаць нельга. Наконт жа прафэсійных жабракоў — іх шмат, і рана ці позна зьявіцца жаданьне дапамагчы грашыма. Гэта зрабіць можна, але памятай, дружа, што зарабляюць яны, хутчэй за ўсё, больш, чым ты.

Вось што чакае цябе, калі ты прыедзеш у Маскву па справах, у госьці ці проста так адпачыць...

**Дзядзька Антось**


Фота IREX-ProMedia

# Арт-фэстываль «Менская вясна»

*Праграма фэстывалю «Менская вясна». Менск, 18, 19, 20 траўня 2000*

18 ТРАЎНЯ (ЧАЦЬВЕР)

**11.30—14.00** — «Амэрыканскі экспэрымэнтальны тэатар» — прэзэнтацыя відэафільмаў: «Bread and Puppet» — сустрэча зь Ёанай Астроўскай (Унівэрсытэт ім. Адама Міцкевіча, Познань), «The Wooster Group» — сустрэча з Магдай Грудзінскай (Ягелёнскі Унівэрсытэт, Кракаў) / Тэатар «Вольная сцэна»

**16.00** — Адкрыцьцё фэстывалю, прэс-канфэрэнцыя / Тэатар «Вольная сцэна»

**17.00—19.00** — «Акцыя-Вуліца-Свабода» — прэзэнтацыя відэафільмаў: «84 дні хаджэньня», «Студзеньская рака» і «Гукі Сэрбіі» (падзеі ў Бялградзе ў 1996—97) — камэнтары Ёаны Астроўскай, «Рэвалюцыя гномаў» (пра падзеі «Апэльсынавай Альтэрнатывы» ў Польшчы ў 1988—89) — сустрэча з Вальдэмарам Фрыдрыхам («Маерам»), ініцыятарам «Альтэрнатывы» / Тэатар «Вольная сцэна»

**19.30** — Канцэрт гуртоў «Новае Неба», «Крыві», а таксама Яцка Клейфа і аркестру «Na Zdrowie» (Польшча) / клюб «Рэактар». Цана квітка 2000—2500 (за столікам).

19 ТРАЎНЯ (ПЯТНІЦА)

**14.00** — Акцыі польскіх і беларускіх пэрфомэраў (Мячыслаў Скаліноўскі, Лукаш Главацкі, Ягна Цюхта, Віктар Пятроў, Дзяніс Раманоўскі) / Тэатар «Дзе-Я»

**17.00** — Спэктакаль «Тутэйшыя», Тэатар лялек (Горадня) / Тэатар «Дзе-Я»

**18.30** — канцэрт гурту «Gelee Royale» (Нямеччына) / Тэатар «Вольная сцэна»

**21.00** — Спэктакаль «Ёлка У» тэатру «Жэст» (Менск) / Тэатар Юнага Гледача

20 ТРАЎНЯ (СУБОТА)

**14.00—16.00** — Акцыі пэрфомэраў:

Віктар Пятроў, Аляксей Іваноў, Аляксандар Родзін, Лявон Вольскі (Беларусь)

Спэктакаль-акцыя «Uczty duchowe»/»Духоўныя бяседы» тэатру «Акадэмія руху» (Польшча) і сустрэча зь лідэрам тэатру, дырэктарам Цэнтру Сучаснага Мастацтва «Замак Уяздоўскі» Войцэхам Крукоўскім / Тэатар Юнага Гледача

**17.00** — Спэктакаль тэатру «Cogitatur» (Польшча) «Cabaret Neopathetique» / Тэатар «Дзе-Я»

**18.00** — Заключная прэс-канфэрэнцыя / Тэатар «Дзе-Я»

**18.00** — Канцэрт групы «Diffusion Ensemble» (Польшча, Нямеччына), Клаўса дэр Гайгера (Нямеччына), групы «Плато» (Беларусь) / Цэнтар Творчасьці Дзяцей і Моладзі

**19.00** — Канцэрт гуртоў «Уліс», N.R.M., «Pidzama Porno» (Польшча) / Клюб «Рэактар». Цана квітка 2000—2500 (за столікам).

*У праграме магчымыя зьмены. Даведкі праз тэл. (017) 227-51-09.*

# ГЕНЭРАЛА НЯМА Й НЯ БУДЗЕ

## Мінуў год, як зьнік бязь вестак генэрал Юры Захаранка



Фота IREX-ProMedia

Зьнік у цэнтры двухмільённай сталіцы, увечары перадсьвяточнага дня, па дарозе дадому. Галоўны вынік году: знаходжаньне былога міністра ўнутраных справаў Беларусі не ўстаноўленае. Дагэтуль, пакуль, на гэты момант... Можна дадаць да гэтай фармулёўкі што заўгодна, але гэта ніяк не суцяшае: ці жывы чалавек — дагэтуль? Пакуль? На дадзены момант?

Шукаць Захаранку й расьсьледаваць інцыдэнт за год браліся многія. Родныя, сябры, паплечнікі шукалі яго зь першых гадзінаў невяртаньня. Праз тры дні сіламі паплечнікаў, адстаўных сілавікоў, створаная грамадзкая камісія. Яшчэ праз тры дні пра аналягічны крок абвяшчае й Вярхоўны Савет. Сівакоў пасьпявае абвясьціць пошукі свайго папярэдніка па пасадзе міністра справай гонару беларускай міліцыі. Міліцыя — у асобе супрацоўнікаў Кастрычніцкага райаддзелу — пазабіраць з хаты ягоныя нататнікі. Ды пасьцерагчы пікеты апазыцыі з партрэтамі свайго колішняга кіраўніка на транспарантах... Паўгады таму «справай Захаранкі» пачынае займацца міжнародная камісія пры ААН. Толькі пасьля чатырох месяцаў, калі зьнікаюць яшчэ й Ганчар з Красоўскім, узбуджае крымінальную справу па 100-м артыкуле гарадзкая пракуратура. Лукашэнка месцам знаходжаньня апальнага экс-міністра называе Украіну.

Да чорнай даты перад чарговым Днём Перамогі з журналістамі пра генэрала Захаранку не гаворыць амаль ніхто. Толькі родныя, сябры, бліжэйшыя паплечнікі.

На прэс-канфэрэнцыі, зладжанай грамадзкай арганізацыяй «Прававая дапамога насельніцтву», прысутнічаюць жонка й дачка генэрала, тры (зь пяці) сябры камісіі. Адсутнічаюць запрошаныя супрацоўнікі пракуратуры, якія вядуць афіцыйнае сьледзтва.

Зьнікненьню Юр'я Захаранкі, як вядома, папярэднічала ягоная заява пра падтрымку на травеньскіх выбарах кандыдата ў прэзыдэнты Міхаіла Чыгіра, а таксама актыўны ўдзел у стварэньні Беларускага саюзу афіцэраў. Папярэднічала крымінальная справа ў Гомелі па артыкуле «ўціск на міліцыю», вышук, пра які экс-міністру паведамлялі самі міліцыянты, аўтакатастрофа й гібель другой даверанай асобы Чыгіра — Арнольда Пячэрскага. Папярэднічала заўсёднае назіраньне спэцслужбаў («наружкі»). Менавіта ў дзень зьнікненьня Захаранкі назіраньне за ім было зьнятае.

Апошнім з Юр'ем Захаранкам сустракаўся афіцэр міліцыі Ўладзімер Арэстаў.

«7 траўня генэрал сустракаў мяне за горадам, бо я Менску добра ня ведаю й пакідаў машыну на стаянцы. Мы на ягонай машыне езьдзілі й працавалі. З раніцы назіраньне было. Ад назіраньня альбо мы «сышлі», альбо яно было зьнятае. У другой палове дня назіраньня не было — гэта дакладна можна сказаць. У 18.30 ён мяне правёў за горад, я паехаў далей. Недзе а 19-й мы рассталіся».

Цікавая рэч: толькі праз тры месяцы пасьля пачатку афіцыйнага сьледзтва пракуратурай Менску кампэтэнтныя асобы змаглі ўстанавіць, з кім Захаранка правёў апошнія паўдня. Хоць ніхто гэтага не хаваў. Наадварот, сам Уладзімер Арэстаў падказаў сьледзтву.

На працягу леташніх сьвяточных дзён, г.зн. ужо да вечара 9 траўня, сябры Юр'я Захаранкі абшукалі на месцы ягонага зьнікненьня ўсё, уключна з падваламі й каналізацыйнымі люкамі. На працягу тыдня знайшлі шэсьць сьведкаў. Іхныя паказаньні супадаюць амаль цалкам (трое сьведкаў па-рознаму ацэньваюць колькасьць людзей, якія напалі на экс-міністра й зацягнулі яго ў машыну: пяць гэта было чалавек ці шэсьць, адзін ці два зь іх пайшлі потым у бок дзіцячага саду). Супадаюць і апісаньні нападнікаў. Адзін зь відавочцаў нават цалкам упэўнены, што бачыў напад менавіта на Юр'я Захаранку.

На працягу першых сутак пасьля выкраданьня генэралаў сотавы тэлефон ня быў адключаны: толькі 8-га позна ўвечары ён стаў адказваць «няма сувязі з абанэнтам». Сябры грамадзкай камісіі лічаць, што тэлефон, хутчэй за ўсё, быў згублены на месцы выкраданьня ў момант бойкі, а пазьней некім знойдзены і ўжываецца цяпер са зьмененым нумарам. Захопнікі адключылі б апарат адразу.

«Казаць, што мы маглі спрацаваць лепей за ўсе спэцслужбы дзяржавы, было б памылкова і несур'ёзна», — кажа адзін з паплечнікаў Захаранкі, былы палкоўнік спэцназу Ўладзімер Барадач. — Некалькі словаў пра ўмовы працы грамадзкай камісіі. Па-першае, гэтых людзей папярэджвалі, што яны вядуць расьсьледаваньне незаконна, прысвойваючы паўнамоцтвы дзяржаўных органаў, што цалкам падпадае пад адпаведны крымінальны артыкул. Па-другое, усе яны давалі паказаньні «афіцыйнаму» сьледзтву як сьведкі. Па-трэцяе, сьледчыя пракуратуры зусім не сьпяшаліся прымаць пад увагу разумныя прапановы сваіх былых калегаў. Скажам, прапанова праверыць зьвесткі праслухоўваньня й «наружкі» ўрэшце вылілася ў адказ, што матэрыялы спэцслужбаў на Захаранку «згубіліся». Хоць звычайна такія рэчы, са словаў У.Барадача, захоўваюцца ў архівах 25 гадоў.

У працэсе зносінаў са сьледчай Сьвятланай Байковай, якая вядзе справу Захаранкі, сябры камісіі Алега Волчака ўпэўніліся, што сьледзтва не жадае браць пад увагу палітычную вэрсію, робячы ўпор на варыянт выкраданьня генэрала за нейкія пазыкі крымінальнікам. Аднак гэта выглядае нелягічна. «Калі чалавека бяруць за грошы, звычайна прад'яўляюцца нейкія патрабаваньні з тым, каб вярнуць тыя грошы. Такіх зваротаў пасьля выкраданьня не было», — кажа Ўладзімер Барадач. Камісія мае доказы, што да выкраданьня ня маюць дачыненьня крымінальныя структуры. З самага пачатку не адкідаліся ніякія вэрсіі прычынаў і матываў, і цяпер мае пацьверджаньні толькі адна зь іх — палітычная.

На думку палкоўніка Барадача, Захаранку «маглі арыштаваць афіцыйна з-за асьведаміцеляў», бо «яму прапаноўвалі нейкі пераварот ажыцьцявіць». З-за пары рэзкіх словаў экс-міністра маглі схапіць, схаваць і весьці сьледзтва, нікому не паведамляючы, год ці паўтара гады, бо справа ж — «дзяржаўнай важнасьці». Прынамсі, надзея на гэткі варыянт, кажа У.Барадач, яшчэ застаецца.

Меркаваньні сяброў Захаранкі пра магчымы «замежны сьлед» у гэтай гісторыі разыходзяцца. «Расіяне маглі ўзяць Захаранку, Ганчара й на час іх ізаляваць, каб далей выкарыстаць у палітычнай барацьбе, магчыма, паставіць на месца Лукашэнкі. Але каб расейскія ўлады ўмешваліся й дапамагалі Лукашэнку ў «мокрых» справах — я сумняюся», — кажа У.Барадач. Ён мяркуе, што рэжыму прасьцей за ўсё наняць для такіх «справаў» прафэсіяналаў-беларусаў, гуляючы на ўбітай прапагандай антыпатыі да «бээнэфаўцаў». Уладзімер Арэстаў, наадварот, схільны прыпісваць зачыстку палітычнага поля ў Беларусі брыгадам прафэсіяналаў-небеларусаў, якія дзейнічаюць пры моцнай падтрымцы й матэрыяльным заахвочваньні і, цалкам верагодна, ня толькі ў Беларусі.

У жонкі ж экс-міністра Вольгі Захаранкі выклікае падазрэньне тая ўпартасьць, зь якой адмаўляўся й адмаўляецца ад сустрэчы зь ёю амбасадар Расеі ў Беларусі. Дачка Юр'я Захаранкі Алена распавяла, што, калі сьледчай Сьвятлане Байковай прапанавалі папрацаваць па «расейскай» вэрсіі, тут жа ўмяшалася ейнае начальства — загадала «шукаць у Беларусі й нікуды ня лезьці». Алена не разумее, чаму прылюдна называе месцы нібыта знаходжаньня яе бацькі кіраўнік дзяржавы: калі Лукашэнка ведае, яго трэ было б дапытаць сьледзтву. На гэта зьвярнуў увагу й старшыня грамадзкай камісіі Алег Волчак. «Неяк Лукашэнка сказаў, што Віньнікава знаходзіцца ў Англіі. І гэта пацьвердзілася. Ён жа казаў, што Захаранка — ва Украіне... Колькі нам паступала званкоў: Захаранка «быў» ужо і ў Смаленску, і ў Літве, і ў Празе». А.Волчак не выключае, што найвышэйшая ўлада Беларусі сапраўды валодае інфармацыяй. І рыхтуе глебу, каб у нейкім выглядзе запусьціць гэтую інфармацыю ў масавую сьвядомасьць пад зручнай для рэжыму вэрсіяй.

Падобныя злачынствы раскрываюцца па гарачых сьлядах, лічаць адстаўныя сілавікі. Альбо могуць стаць сэнсацыяй пад рубрыкай «белыя плямы гісторыі» праз шмат часу. Дзейнічалі замоўца выкраданьня й пяць-шэсьць выканаўцаў, якіх, цалкам верагодна, цяпер можа ня быць у жывых. «Паводле клясычнай схемы, людзі, якія робяць «гучную» справу, «прыбіраюцца» іншымі асобамі; другія асобы ня ведаюць, што зрабілі першыя. Гэта клясычны прыём, калі трэба «чыстая» справа», — тлумачыць У.Барадач. Калі ж выканаўцы жывыя, малаверагодна, што яны прызнаюцца ва ўчыненым — сваім саўдзеле ў злачынстве і, у выпадку сумневу, могуць «прыбраць» самі сябе. Таму «цяпер гэтую справу раскрыць можна толькі выпадкова», дакладнымі зьвесткамі валодае вельмі вузкае кола жыцьцёва зацікаўленых у яе сакрэтнасьці асобаў.

Уладзімер Барадач адзначыў: «І Захаранка, і Ганчар — як тыя салдаты ў 40-х гадох: яны гэтак жа зьніклі бязь вестак, толькі на палітычным «полі бою»... Гэтае поле шырэйшае за тэрыторыю Беларусі ў сьвятле шэрагу падзеяў на прасторах СНГ, прадыктаваных гэбісцкім рэваншам у Расеі. Калі мы кажам пра ланцуг сьмерцяў і зьнікненьняў людзей у Беларусі, цяжка не згадаць пра паралелі ў абставінах дзіўнай сьмерці Карпенкі і Сабчака (хваробы, на якія яны хварэлі), Пячэрскага й Чарнавіла (аўтакатастрофы). А выкрадзеныя (а ня зьбеглыя і зьніклыя) Віньнікава, Захаранка, Ганчар, Красоўскі нагадваюць амаль штодзённыя зводкі з Каўказу пра закладнікаў, і розьніца ў падачы інфамацыі аб іх абумоўленая розным статусам Беларусі й Чачэніі, рознымі мэтадамі іх далучэньня да імпэрыі-мэтраполіі (ці ўтрыманьня ў ёй). Урэшце — рознай ступеньню сілы, арганізаванасьці й радыкальнасьці апазыцыі ў рэгіёнах «нацыянальных ускраінаў». Беларуская сытуацыя не дазволіла захаваным структурам КГБ прыбраць Захаранку так, як Старавойтаву альбо, скажам, Дудаева. Ступень ягонай аўтарытэтнасьці сярод дзейных і адстаўных афіцэраў Беларусі не дазволіла кінуць яго ў турму, як Чыгіра, Клімава ці Васіля Старавойтава: афіцэры — гэта не дэпутаты, старшыні калгасаў альбо банкіры. Псыхалягічна ж разьлік арганізатараў расправы з Захаранкам падобны да правакацыяў спэцслужбаў Расеі ў «гарачых кропках» — выкраданьне й забойства ўлетку 96-га журналісткі Надзеі Чайковай у Чачэніі, расстрэл дзевяці лекараў-замежнікаў Чырвонага Крыжа ў канцы 96-га ў Новых Атагах. У абодвух выпадках злачынствы прыпісваліся прапагандай якраз тым, каго ахвяры злачынстваў абаранялі, лячылі, каго не маглі баяцца, з кім мелі добрыя дачыненьні. Нешта падобнае казалі ў «Панараме» Казіятка, у «Рэзанансе» Зімоўскі: што з Захаранкам (і Ганчаром) «магла расправіцца апазыцыя», што абодва «ўцяклі з грашыма» і г.д.

І апошняе. «Прававая дапамога насельніцтву» змагла прадставіць журналістам аўдыязапіс размовы са сьледчай Сьвятланай Байковай. Яна заявіла, што пра лёс Юр'я Захаранкі ня ведае нічога, а справа па 100-м артыкуле, хутчэй за ўсё, будзе «прыпыненая». Пакуль, са словаў Байковай, пра гэта гаворка ня йдзе, але такі вынік пасьля году-паўтарох пошукаў — «звычайная практыка». Прыстойную міну рэжым захавае, значыць: шукаў, але ня змог.

Вось так, кажучы словамі Алены Захаранкі, «у наш час людзі аддаюць жыцьцё за прававую дзяржаву»?

**Тацяна Сьнітко**

---

календар

**21 траўня 1975 г.** у Нямеччыне пачаўся працэс над дзеячамі *Фракцыі Чырвонай Арміі*. Гэта была ультралевая арганізацыя, якую ачольвала журналістка Ульрыка Майнгоф. «Чырвонаармейцы» былі тэрарыстамі, выхаванымі на прыкладзе Чэ Гевары, яны забівалі й выкрадалі людзей.

**22 траўня 1925 г.** перастала існаваць газэта «Беларуская доля». Нарадзілася яна ў тым самым годзе, у студзені, і была органам Беларускага пасольскага клюбу (аб'яднаньня дэпутатаў-беларусаў у польскім парлямэнце). Аддавала перавагу нацыянальна-вызвольнаму руху ў Заходняй Беларусі, друкавала прамовы беларускіх паслоў у Сойме. Газэта была разьлічаная на сялянаў. Друкавалі ў ёй свае вершы Янка Купала і Ўладзімер Жылка. Некалькі нумароў газэты польскія ўлады сканфіскавалі, а неўзабаве, 22 траўня, і ўвогуле зачынілі газэту.

**22 траўня 1900 г.** у вёсцы Ізабалёва каля Пухавічаў прыйшоў на сьвет Мікола Касьпяровіч, краязнаўца, лексыкограф, мастацтвазнаўца. Ужо ў 17 гадоў Мікола становіцца настаўнікам і выкладае на Ігуменшчыне. Паралельна з тым ён быў інструктарам Часовага Беларускага Нацыянальнага Камітэту, браў удзел у антыпольскім падпольлі. Па заканчэньні ваенных падзеяў у Беларусі Мікола Касьпяровіч сканчае Менскі інстытут народнай асьветы, потым паступае ў БДУ. Але хутка яго стуль выключаюць. У адрозьненьне ад сваіх пагодкаў-камсамольцаў, Касьпяровіч аж да 1924 году быў сябрам партыі беларускіх эсэраў. І разам з тым... інструктарам Народнага камісарыяту асьветы БССР, а пасьля — Слуцкага і Віцебскага аддзелаў народнай асьветы. У 1926 г. ён сакратар Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інбелкульце і сакратар краязнаўчага часопісу «Наш край». Са сшыткам у руках ён хадзіў па вёсках, запісваючы жывое беларускае слова. Вынікам працы стала выданьне «Беларуска-расейскага слоўнічка», «Віцебскага краёвага слоўнічка» і «Слоўнічка ўласных найменьняў». Апроч гэтага, ён пісаў артыкулы пра гісторыю тэатру, культуры, мастацтва і дойлідства. Ягоная зорка магла зазьзяць на поўную моц, але ў 1930 г. па абвінавачваньні ў прыналежнасьці да Саюзу Вызваленьня Беларусі Касьпяровіч быў арыштаваны і асуджаны на пяць гадоў. Пасьля турмы ён ціхенька выкладаў расейскую мову ў Навасібірску, але ў 1937 г. усё ж быў паўторна арыштаваны і на гэты раз прысуджаны да расстрэлу. Прысуд выкананы ў тым самым годзе на каталіцкія Каляды.

**Каля 1575 г.** у Гданьску нарадзіўся Тамаш Макоўскі, вядомы гравёр, картограф, друкар. Напачатку XVII ст. ён жыў у Нясьвіжы, дзе загадваў нясьвіскай друкарняй на службе ў Міка-

# «РЭФЭРЭНДУМКА»

Датэрмінова выпускаюць з турмы. Бываюць датэрміновыя прэзыдэнцкія выбары. А для білетаў існуе «папярэдні продаж».

Бясспрэчна, беларускія кабеткі з чыстага золата. Хоць сустракаюцца і каменныя бабы.

У артыстаў усё «з прыколам».

г.Ваўкавыск, Гродзенская вобл., вул.Кастрычніцкая, 151, тэл./факс (01512) 5-11-81
Крэсцьянскія
ПЕЛЬМЕНІ
ЗАМАРОЖАНЫЯ
Выраблена ў Рэспубліцы Беларусь
СТБ 974-94

Ну, очэнь укусныя!

«Кто как хаціт, тот так і гаварыт» было моўным крэда Мікалая Дземянцея, колішняга Старшыні Вярхоўнага Савету БССР. Але ж менавіта пад ягоным кіраўніцтвам наскрозь савецкі Вярхоўны Савет 26 студзеня 1990 году прыняў закон «Аб мовах у Беларускай ССР», надаўшы беларускай мове статус дзяржаўнай. Пры ім жа 27 ліпеня 1990 году прынята Дэклярацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі. Нарэшце, 25 жніўня 1991 г. — новае імя нашай дзяржавы — Рэспубліка Беларусь. Залуналі ва ўсёй Беларусі бел-чырвона-белыя сьцягі, на фасадах, шыльдах, пячатках і марках паімчалася Пагоня. Здавалася, «працэс пайшоў». Адчыняліся беларускія садкі і клясы, заварушылася чынавенства, зьявіліся новыя беларускамоўныя пэрыёдыкі, пачаў адраджацца клясычны правапіс. Нават млявасьць, нерашучасьць і бязьдзейнасьць вышэйшага кіраўніцтва не магла перашкодзіць стыхійным працэсам.

А потым прыйшоў Вялікі Інтэгратар. А потым грымнуў ганебна-славуты (ці мо славута-ганебны?) рэфэрэндум 14 траўня 1995 году. І пачалася пяцігодка цемрашальства, грамадзка-палітычнага, культурнага маразму. Пачалася ж яна з шабасу на даху прэзыдэнцкай рэзыдэнцыі, дзе сабраліся вурдалакі і ведзьмакі, д'яблы і вампіры і з садысцкай асалодай расшкамуталі на кавалачкі нашую нацыянальную сьвятыню. Зьбівалася, сьціралася, зразалася Пагоня, зачыняліся садкі і клясы, радасна ашчэрыла жоўтыя іклы савецкае чынавенства, «великий и могучий, правдивый и свободный» запаланіў кнігарні і шапікі, радыё і тэлебачаньне, прэсу і падручнікі.

Найбольш адпакутавала за ўсю гэтую пяцігодку роспачы і смутку наша мова. Што толькі зь ёю ні вырабляюць! «Хто как хаціт, тот так і пішат». Дык каб жа пісалі ў скаргах і даносах, лістах ці дырэктывах. А то на шыльдах, на ўказальніках! На вітрынах і фасадах! І ўсё гэта вялізнымі літарамі. І ўсё гэта чытаюць нашыя дзеці і думаюць, што так і трэба.

Вось вам білінгвізм. І гэта ўсё ў самым цэнтры сталіцы. А што ж робіцца ў меншых гарадах, у мястэчках і вёсках?

**Уладзімер Крукоўскі**

*Фота Ўладзімера Крукоўскага і Марыі Шахаўцовай [«У час руху вадзіцеля не гвалтаваць»]*

АД РЭДАКЦЫІ. Шаноўныя чытачы, калі Вы ведаеце альбо спаткаеце дзе прыклады такой вось «рэфэрэндумкі», дасылайце іх нам або паведамляйце, дзе такое бачылі. Будзем друкаваць і сьмешнае, і горкае. Можа каму з аўтараў «пэрлаў» сорамна стане.

«За Победу» над беларускай мовай.

Ах, они мягкого «р» не могут выговарить!

Такая ў вас і тэхніка

Ажаніўся расейскі магазін зь беларускаю крамаю. І нарадзіўся ў іх лінгвістычны кентаўр.

Яшчэ адзін кентаўр. Кульгавы, праўда.

... І парфумэрія

---

лая Крыштафа Радзівіла Сіроткі. Макоўскі зрабіў медзярыты да кнігі Радзівіла «Паломніцтва ў Сьвятую Зямлю», ілюстраваў славутую «Гіпіку» Дарагастайскага і выгравіраваў партрэт Радзівіла Сіроткі. Слава гравёра разышлася ў ваколіцах, магнаты пачалі замаўляць яму свае партрэты. Тамаш Макоўскі — таксама аўтар відаў Вільні, Горадні, Клецку, Коўні, Нясьвіжу, Трокаў. Каля 1603 г. ён выбівае першую дакладную мапу Вялікага Княства Літоўскага (захавалася 2-е выданьне, амстэрдамскае). Да мапы ён дадаў складзены ім тлумачальны тэкст, у якім даваліся асноўныя зьвесткі пра беларускія землі. Пад час вайны Рэчы Паспалітай з Масковіяй (1609—1618) і акупацыі расейскай сталіцы нашымі войскамі Тамаш Макоўскі, верагодна, пабыў у Маскве, бо стварыў гравюру з панарамай гэтага «трэцяга Рыму», зрабіў плян Масквы, выяву палонных братоў Шуйскіх і некалькі гравюраў баявых дзеяньняў.

**У 1900** г. нарадзіўся Якуб Харэўскі, беларускі атаман, камандзір партызанскага атраду імя Нябабы. Ягонае сапраўднае прозьвішча было Новік, а Харэўскі — псэўданім — ад дзявочага прозьвішча маці ды ад найменьня роднай вёскі (Харэва або Харава). Партызанскі стаж ягоны пачаў «налічвацца» яшчэ ў 1922 г., калі Якуб Харэўскі далучыўся да антыпольскай партызанкі ў Заходняй Беларусі, пад патранажам Беларускай Народнай Рэспублікі. У 1925 г. па скканчэньні антыпольскага змаганьня Харэўскі нелегальна перабіраецца ў Савецкую Беларусь. Чым ён займаўся ў «самай вольнай у сьвеце краіне», невядома, але вядома, што ў 1937 г. вярнуўся назад у Заходнюю Беларусь. З пачаткам нямецкай акупацыі ўлетку 1941 г. Харэўскі браў удзел у антыбальшавіцкай апэрацыі на Палесьсі, у 1942 г. ён стаў адным з кіраўнікоў Беларускай Народнай Партызанкі (праўда, чым займаліся і з кім змагаліся ейныя прадстаўнікі, невядома, прынамсі, зьвестак пра пушчаныя пад адхон цягнікі няма). Пасьля 1944 г. Харэўскі са сваімі хлопцамі змагаўся з савецкай уладай, пакуль у 1948 г. не перайшоў на Захад і не перабраўся ў Бразылію. Загінуў ён у 1968 г. у аўтамабільнай катастрофе.

Якуб Харэўскі

**Алег Гардзіенка**

ВОДГУКІ

# Сынонімы праўды

*У «НН» № 18 за гэты год была зьмешчана падборка дакумэнтальных матар'ялаў пад назвай: «Будні савецкіх герояў. Гісторыя Данукалава». Пакрысе Янус савецкай партызанкі паказвае свой другі твар. Толькі такім чынам можна ўрэшце наблізіцца да сапраўднага разуменьня таго супярэчлівага часу. Тэма вайны засталася ці не апошняй, якую працягваюць пільнаваць наглядчыкі грамадзкае сьвядомасьці. Тутака і дасюль кантралююць факты, іх асэнсаваньне й тлумачэньне, іх адпаведнасьць канцэпцыям, распрацаваным яшчэ ў эпоху культу. Варта нагадаць, што ў тыя часы менавіта пра партызанскі рух надрукаваў кнігу кіраўнік дзяржбясьпекі БССР Л.Цанава.*

*У зьвязку з гэтым хацеў бы зьвярнуць увагу чытачоў «НН» на наступнае. У 1991 годзе былі апублікаваныя дзёньнікавыя запісы Аляксея Кандратовіча, паплечніка А.Твардоўскага і ягонага намесьніка ў расейскім часопісе «Новый мир» (Кондротович А.И. Новомирский дневник (1967—1970). — Москва: Сов. писатель, 1991.— 528 с.). Ён памёр у 1984 годзе. Таму тым больш каштоўныя для нас сьведчаньні гэтага чалавека, які скрупулёзна фіксаваў думкі, падзеі, учынкі з мэтай зьберагчы іх для будучыні. Дарэчы, А.Кандратовіч усьведамляў, ШТО ён робіць: «Мой дневник я расцениваю только как документ. Не оправдательный: оправдываться не в чем. Обвинительный» (с.487).*

*Вось запісы за 13—14.1.1969 г. (с. 350—353). «Приехал Быков... Начал печататься в «Н.м.», — и стали так его критиковать, что дома, в Гродно, хулиганы стёкла выбивают». А.Кандратовіч запісвае, як рэагуе А.Твардоўскі на аповесьць В.Быкава «Круглянскі мост», якую пісьменьнік прывёз у рэдакцыю. Гэтыя словы паказваюць, што і трыццаць гадоў таму па-за рамкамі прапагандысцкіх штампаў і афіцыйных поглядаў на вайну існавалі меркаваньні, што супадалі з сучаснымі. «Вы написали немного, но за всем этим чувствуется реальная партизанская жизнь. Ведь гибель мальчика через Бритвина говорит о многом. Никто же до сих пор не сказал и еще долго не скажут, что партизаны далеко не всегда были в ладах с населением, могли из-за одного полицая сжечь всю деревню. И жгли. И лишали крова и хлеба. Ко мне заходил недавно один человек, без уха, без носа, без руки. Он был мальчиком, когда партизаны погнали его (и не одного) на минное поле, чтобы проверить, можно ли по нему пройти... Вот ведь даже какие дела свершались...»*

*І на заканчэньне яшчэ адна вынятка зь дзёньніка. Запіс ад 28 лістапада 1967 г. (с. 134) пра размову з Галанавым, партапаратчыкам, які адказваў у ЦК КПСС за зьмест «Нового мира». «Был у Галанова... Встретив у Быкова да и других слово «правда», он поморщился: «Ну, нельзя ли заменить это слово каким-нибудь синонимом?» Вось і зараз шукаюць сынонімы для слову «праўда», «Беларусь», «патрыятызм»...*

**Сяржук Аржанцаў, Клімавічы**

Фота Алеся Лубнеўскага

# БАРАЎЦЫ

Патраціць сюды лёгка, ад'ехаўшыся ўсяго 10 кілямэтраў зь Вялейкі ў кірунку на Смургоні. Раўнютка стужка новае аб'язное дарогі бяжыць высокім насыпам, пакідаючы леваруч шнуры някідкіх шэрых бараўскіх двароў, а праваруч — выцягнутую балаціну ў атачэньні срэбрыстага лазьняку. Раней езьдзілі праз вёску, але гэта было небясьпечна й нязручна. А пасьля збудавалі аб'язную, і Бараўцы засталіся ўбаку...

Звычайная беларуская вёска. Але ў гэтым ейная бязьмерная каштоўнасьць, бо й дагэтуль жывуць людзі звычаем. Сапраўдная вёска. Зусім непадобная на безгустоўныя аднолькавыя саўгасныя сялібы зь белае сылікатнае цэглы пад бясколернымі шыфернымі дахамі. У Бараўцах яшчэ сустрэнеш і старую пакарабачаную дахоўку, і нават старасьвецкую цёплую саламяную страху. «Непэрспэктыўная» вёска. Даўгая рубленая школа даўно закінутая — нешматлікая малеча езьдзіць па навуку ў суседнюю Нарочу; напаўраскіданы клюб вабіць улетку хіба што нетутэйшую гарадзкую моладзь на папсовыя скокі; маленькая бібліятэка нікому не патрэбная. Адзінае месца, што й дагэтуль гуртуе вакол сябе вяскоўцаў — старая цэркаўка на могілках.

Бараўскія могілкі сьветлыя й вольныя. Чэрвеньскім адвячоркам, калі цёплы гарэзьлівы ветрык ціха шапоча трапяткім асінавым лісьцём, гэтак хораша сесьці, прытуліўшы голаў да шурпатае ад часу драўлянае царкоўнае сьцяны, ды, заплюшчыўшы вочы, моўчкі слухаць нясьмелы салаўіны пошчак. А потым, блукаючы сярод зарослых мурогам старых магіл ды пахіленых заімшэлых дубовых крыжоў, вышэйшых за чалавечую паставу, думаць пра бясконцую плынь чалавечага жыцьця.



Даўнейшыя Бараўцы былі зусім іншыя. Яшчэ пасьля вайны жыцьцё бруіла тут буруном. У цесных хатах церлася па некалькі сем'яў, а ўвогуле вёска мела болей за тысячу жыхароў. Адпрацаваўшы дзень, моладзь зьбіралася ледзьве не да раньня сьпяваць ды танчыць пад гармонік. Бабы хадзілі летняю гарачынёй кілямэтры за тры туды, дзе й сёньня цьмяніцца ля кругавіду зубчасты край балацяністага ельніка, што называецца Крам'ё, па чарніцы, дурніцы ды журавіны. А мужчыны будаваліся. Спачатку на бацькоўскіх «планах», а пасьля, калі месца ў старой вёсцы напрыканцы пяцідзясятых ня сталася, — на выселках у сасоньніку, ці, як тут кажуць, у Кустах.

Тыя часы мінулі. Сёньня добра, калі назьбіраецца якая сотня жывых людзей. Маладых сем'яў — пералічыць па пальцах. А да таго яшчэ, як казаў мой паляшукдзед, «д'яблава кроў» — гарэлка. Маладых хлапцоў ды дзядзькоў хаваюць сёньня ці не часьцей, чым старых. Пустыя адзінокія хаты з высаджанымі гарадзкімі тынэйджэрамі вокнамі ды самотна расчынятымі весьніцамі траплюцца праз адну. А ў гэтую восень Бараўцы шчэ й гарэлі. Дзякаваць Богу, паджылы дзядзька Віш пасьпеў-такі выскачыць з полымя, але чорнае пажарышча зь дзіркамі былых вокнаў ды перакрыжаванымі абуранымі бэлькамі ўсё адно цяжка ўражвае ды тужлівым роздумам ахінае душу.

Але ж Бараўцы жывуць! Асабліва добра чуеш гэта, калі з раніцы ў нядзелю сядзіш на новай фарбаванай лавачцы ля царквы й з цікавасьцяй назіраеш, як вёска зьбіраецца на службу. Важкія на хаду бабы з кійкамі, маладзіцы ў каляровых хусьцінах, паважныя дзядзькі ў клятчастых кашулях на раварох з усіх бакоў спакваля зьбіраюцца да бажніцы. Адкрываюцца старыя шчылістыя царкоўныя дзьверы, бухае шчарбаты звон ля ўваходу, запальваюцца гарачыя мітусьлівыя агеньчыкі сьвечак. Нарэшце бабулькі пачынаюць сьпяваць, блытаючы раз-пораз цяжкія кніжныя словы літургічнага канону. І аджываюць раптам выцьвілыя, стомленыя, зьняверанныя вочы старых, а мілагучны сьпеў вылузваецца зь цеснае цэркаўкі й плыве над нерухомымі магілкамі, у якіх спачываюць амаль адно Ількевічы, Бярозы ды Капцюгі.

Драўляная бараўская царква была збудаваная дзесьці напрыканцы 70-х гадоў XVIII ст. Маленькая й утульная, з простым шасьціканцовым крыжам, яна перажыла ўжо столькі людзей, што й чэсьцілі яе, і зьнеяважалі. Апошнім разам, ужо на памяці цяперашняга сьвятара, два малойчыкі ўлезьлі, зламаўшы дзьверы, унутро, але, не знайшоўшы аніякае спажывы, узгрувасьціліся азадкамі на сьвяты стол ды, граючы на гармоніку, зараўлі нешта вясёлае. Кажуць, што сёньня іх няма ўжо сярод жывых... А царква стаіць, нібыта сіва, як лунь, дзед, ды дагэтуль бароніць старыя Бараўцы ад шалёных павеваў часу.

Калі ружовае цёплае сонца стомлена хіліцца на захад, а лёгкі дзённы ветрык незаўважна сьціхае, у вёску, гучна рыкаючы, вяртаецца радзенькі статак. Мурзатыя дзеткі ды зморжаныя маладзіцы з даўгімі дубцамі чакаюць ля варотаў. Невялічкімі купамі зьбіраюцца па звыклых вулічных лавах старыя. Векавыя таполі, бярозы ды клёны двума роўнымі шарагамі цягнуцца па абодвух баках шырокае вуліцы. Бараўцы.

**Андрэй Захаранка**


БЕЛАРУСКАЯ СЛУЖБА РАДЫЁ СВАБОДА

| ЧАС | kHz | ХВАЛІ |
|---|---|---|
| 18:00 - 19:30 | 7295,<br>9610<br>11725<br>15565 | 41<br>31<br>25<br>19 |
| 22:00 - 23:30 | 6105<br>9535,9750<br>11865 | 49<br>31<br>25 |
| 06:00 - 07:00 | 6065,<br>7295<br>9635, 9750 | 49<br>41<br>31 |

*Сярэднія хвалі — 576 і 612 кгц*
Адрас: 220005 Менск –5, п/с 111;
Vinohradska 1, Praha 110 00 CZ
*Інтэрнэт:* WWW.SVABODA.ORG

НАСТРОЙЦЕСЯ НА "СВАБОДУ"!






НАВІНКІ!

Прыгоды Віні-Пуха

«ГІСТОРЫЯ ЦАЦАК», «ЖЫЦЬЦЁ ЖУКОЎ», «МЕЧ У КАМЕНІ», «БАЛТО», «АЛІСА Ў КРАІНЕ ЦУДАЎ», «ПРЫГАЖУНЯ Ў СОННЫМ ЛЕСЕ» — мультыплікацыйныя фільмы, дубляваныя па-беларуску акторамі вядучых менскіх тэатраў.

«ДЗЕД І ЖОРАЎ», «КАЗКІ ПА ТЭЛЕФОНЕ», «АЗБУКА ДЛЯ МАЛЕНЬКІХ», «ЕХАЎ КАЗАЧНІК БАЙ», «ЦІК-ТАК ХОДЗІКІ», «БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ КАЗКІ», «СТОЙКІ АЛАВЯННЫ САЛДАЦІК + КАЛІФ-БУСЕЛ» — аўдыёкасэты з запісамі казак, калыханак, песьняў для маленькіх беларусаў.





Цяпер і ў Віцебску: вул. Гогаля 14, крама "Сучасьнік"

Кошт відэакасэты — 2 000 руб., кошт аўдыёкасэты — 600 руб.
Зьвяртайцеся на тэл.: 8 (017) 228-45-88.

Касэты можна замовіць, пералічыўшы грошы звычайным паштовым перакразам на рахунак ЗАТ «Сотвар» р/р 3012000000195 ф-л №506 ОАО СБ «Беларусбанк», г.Мінск код 809. У графе «Для пісьмовага паведамленьня» напішыце, якую касэту вы замаўляеце.



Фота Дзяніса Раманюка

## Алена Аляксандрава

***

*A.N.*

Тваё загадкавыя вочы...
Мой сьфінкс,
Ты можаш сярод ночы
Мяне спытаць сур'ёзна:
«Вы адкуль?»
Ты меркаваў, што сьпіш,
Пакуль
Табе я дзіўны цуд распавядала,
Пакуль я твае вочы цалавала.
...Вядзьмарка,
Народжана з тае сьмятаны,
Што ўчора ты пакінуў на стале,
Я прыляцела на мятле, —
Твая суседка, пэўная пляткарка,
Убачыла — хрысьцілася заўзята!
Ты носіш у сваёй кішэні
Маё імя,
Бурштын тваіх вачэй
З маімі пацалункамі зьмяшаны, —
Я адраджаюся ў ім штодня.
Цяпер сьмятану
Ты пакідаеш кожны вечар на стале,
Вядзьмаркаю сваёй зачараваны.

## Сьвятлана Багданкевіч

ДЗЕНЬ ЗАКАХАНЫХ

У паветры трымціць прадчуваньне вясны.
Час прадвесьня і Дзень закаханых.
Беларусі ўсё сьняцца нязбыўныя сны,
Ды маўчаць на завоблачных вежах званы
Пра прыход пераменаў чаканых.

Толькі вечны матыў абуджаецца зноў,
Ціха грае на камэрных струнах,
Але ёсьць жа на сьвеце такая любоў,
Што выводзіць на вуліцы гарадоў
Сёньня ўсіх — і сталых, і юных.

## Ганна Дубовік

***

Мае далоні цягнуцца да неба,
Хапаюць ніткі доўгія сьвятла,
І дорыць мне растучы мох на глебе
Імгненьні незабыўныя цяпла.

Я басанож ступаю па іглiцы,
Іду па сьцежцы некуды далей,
Туды, дзе б'юць празрыстыя крыніцы,
Куды не дасягае сухавей.

Амыю твар халоднаю вадою
І стану змрочнай елкай над ракой,
Каб атрымаць крупіначку спакою
І зьліцца з гэтай шчодраю зямлёй.

Прыму ў свае абдымкі я аблокі,
І будзе вецер рваць мне валасы...
Ды ёсьць у гэтым сэнс. Такі глыбокі,
Як вір пад стромкім берагам Усы.

***

Для каго мне пісаць?
Словы ў сказы складаць па начах
І вачамі душы ў лёс свой доўга ўглядацца.
Для чаго мне пісаць?
Як хвіліны наперад імчаць,
Я, напэўна, ніколі не змагу разабрацца.

Што мой боль для цябе?
Ты яго не пачуеш, ня ўбачыш.
Гэты верш ты ня будзеш трымаць у руках.
Я яго пакладу,
Нібы скарб і бабулін, і матчын,
У кут чырвоны ў чырвоных маіх ручніках.

Я яго зьберагу,
Каб аднойчы пад старасьць знайшоўшы,
Паглядзець і прыпомніць пачуцьці і думкі свае,
Усьміхнуцца сабе,
Што магла быць калісьці такой бесклапотнай
І складаць словы ў сказы ўначы для сябе.

***

А за сьветлым-сьветлым небакраем
Па-над сіняй-сіняю ракою
Чуецца мне шапаценьне гаю
Над маёй схілёнай галавой.

Чуецца мне шапаценьне гаю,
Гоман траў расой, дажджом амытых,
Зь цішыні Вэнэра выплывае
На вадзе пакінуць свой адбітак.

Зь цішыні Вэнэра выплывае,
І гучыць званочак над зямлёю,
Па-за сьветлым-сьветлым небакраем
Па-над сіняй-сіняю ракою.

ЖНІВЕНЬ

Здрыганулася неба, асыпаючы зоркі,
Побач дыхае ціха між чароту рака,
А пад раньне на полі ўжо па-восеньску золка,
І сьпявае нячутна пад касой асака.

Кожны вечар шалее галава ад дурману,
Пахам яблыкаў маніць сад стары да сябе,
Захінулася верба шэрай сьвіткай з туману,
І стаіць, як дзяўчына, па калена ў вадзе.

Стужкі з золата ў косы заплятае бяроза,
Першай жоўтаю плямай у траве — баравік,
А брусьніцы пад дрэвам — выпадковыя сьлёзы,
Што пакінуў аднойчы ў лесе ліпень — і зьнік...

## Вольга Каленік

***

Мы будзем вольнымі. Мы будзем першымі.
Рукі ў рукі — мурамі нязломнымі.
У неба пападаем шчырымі вершамі,
Новыя дзеці зямлі блаславёнае.

Станем Вераю, сэрцамі моцныя,
Пройдзем свой шлях, перамогай асьвечаны,
Зернем упаўшы — у сонцы адродзімся.
Мы будзем вольныя. Мы будзем вечныя.

***

Сябра, усё яшчэ ў нас будзе.
Бачыш, за брудным акенцам
Рванае сонца сядае...
Гэты цягнік, як па крузе,
З кропкі ў кропку нясецца,
А хочацца думаць, што ўдалеч...

Сябра, усяго нам хапіла:
Веры, зьнявагі і здрады,
Зораў, падману і змроку.
Нам наўздагонку паныла
Глянуць вясковыя хаты —
Не азірайся звысоку.

Россып замшэлых каменьняў,
Плач памінальнага звону,
Першая зорка ў нябёсах,
Словаў высокіх насеньне,
Сьлёзы, дарогі, вагоны —
Нашы няпэўныя лёсы.

Сябра, мы тут не праездам.
Значыць, ня наша дарога —
Моўчкі чакаць шкадаваньня.
Сябра, мы пойдзем ня ў бездань,
Знойдзем — ці ў чорта, ці ў Бога —
Шлях цераз ноч да сьвітаньня.

***

Агідная рэч — ружовы колер,
Калі ўсё вакол — колеру асфальту.
Тон у тон з самым брыдкім брудам —
Газэтныя стосы афіцыйных трызьненьняў.

Сьвінцовымі павекамі заплюшчылася неба.
Шэрыя досьвіткі, чорныя ночы,
Нечае веры попел — пад чужымі нагамі,
Засьціць вочы мышасты туман...

Але правілу ўласьціва мець выключэньні:
Калі паглядзець — доўга і ўважліва —
Ружовая мара:
Чырвоны
Зь Белым
У суадносінах
Адзін да двух.

## Алесь Корнеў

ВЯСНОВЫЯ ПРЫКМЕТЫ

На адпачынак на заслужаны
Прыйшла пара зіму адправіць,
Бо нездарма пікеты-лужыны
Вясна пасьпела ўжо расставіць.

З-пад сьнегу ручаі з напругаю
Пасьпелі свой запал прынесьці,
І рэчкі зь белымі харугвамі
Вось-вось пачнуць усюды шэсьце.

Цяплейшы вецер стаў насіцца,
Павесялелі далягляды.
Вясна зь нясьмелай апазыцыі
Ідзе ў рашучасьці да ўлады.

***

*Прэч бутэлькі, люлькі кінем.*
*Годзе траціць час нам зь імі...*
*Кепска будзе...*

*Ф.Багушэвіч*

Нарадзіўся ён у марцы.
Радасьці — ніякай.
Лішні рот у гаспадарцы.
Бацька аж заплакаў:

«Кепска будзе, вельмі кепска.
У батрацтва прама»...
Ён, аднак жа, рабалепства
Не ўспрыняў ні граму.

Рос, мужнеў і авалодаў
Доляю капрызнай.
Быў бацькам узнагародай,
А людзям — карысны.

Сёньня ж — новая эпоха.
У майго суседа
Сын, як кажуць, не ад Бога, —
Іншая прыкмета.

Аніякае карысьці
Бацьку, гаспадарцы.
Не пасьпеў у людзі выйсьці,
Як захрас у чарцы.

Толькі вэрхал, толькі шкода,
Сьвята — кожны будзень.
Не паможа доктар кодам —
Безнадзейны труцень.

Жыць у вечнай асалодзе
Хоча чалавеча...
Дваццаць першае стагодзьдзе,
А вакол — галеча.

ПЕРАЗОВЫ З БАГУШЭВІЧАМ

Сто гадоў прайшло і зь лішкам,
Ды ня ведалі ніколі
Ладу добрага, Францішку,
Мы ў мужыцкай нашай долі.

Гаварыць мне вельмі горка,
Ды скажу табе, васпане,
Што тутэйшая гаворка
Ў нас сёньня не ў пашане.

Веліч мовы сакавітай
Памяншаецца і гіне,
Хоць Радзіма ўжо — нібыта
Незалежная краіна.

Нат вышэйшыя пэрсоны
Нашай мовай нас і дражняць...
Сэнс палітыканства сёньня —
Гэтакі ж, як і учарашні.

## Настасься Кудасава

***

Ня зьнішчаць мяне злыя каты,
Я й з попелу вольна ўздымуся —
Ня будзе чужынец пракляты
Паганіць маёй Беларусі.

***

Я зорамі пакрыю пасівелыя сьляды,
Каб сьветачамі сталі дзеля страчанага краю,
Каб нават калі згубу я ў дарозе напаткаю,
Нашчадкам засталіся на шматлікія гады...

Я словам неадступным буду думкі асьвятляць.
Няхай злуюцца ворагі і пець забараняюць!
Абы жыла ў народзе пракрэсьленае памяць...
Абы нам нашай мовы і свабоды не губляць...

Надзейным талісманам свой народ абараню,
Бо мне прызначыў лёс сабой ахвяраваць наўкола
І ў прагнай барацьбе круціць жыцьця цяжкое кола,
Каб не дазволіць згаснуць вызваленчаму агню!

## Алесь Наркевіч

***

Добрая кава са сном не сябруе.
Радасьць зь бядою ня ладзяць баль.
Сэрца з каханьнем хлусьні ня чуе.
У спрэчцы з кувалдай саступіць раяль.

Вясновую слоту ніхто ня ўспомніць.
На сонца зімою ня цыкнеш: згінь!
Шчасьлівым хапае сьвятла поўні.
Пустому заўсёды мала вагі.

## Марына Цьвятаева

***

Як добра, што мы разам не былі,
І мне — ніяк не заступіць за межы.
Не пахіснуцца на краі зямлі,
І не баяцца Вам падацца сьмешнай,
Разбэшчанай, — і слоў не надзяліць
Зачырванеўшыся, няёмкім сэнсам;
Не захліпнуцца выдахам, калі
Ледзь чутна мы рукамі сутыкнемся.

Яшчэ мне падабаецца, калі
Пры мне Вы побач зь іншаю — халодны;
Што абяцанкаў пекла запаліць
Ня чую я ў адказ на нелагоднасьць;
Што Вам, пяшчотны, не аддаць губам
Маё імя апоўнач выпадкова;
І што ніколі «алілюя» нам
Не прапяюць у цішыні царкоўнай.

Я ўдзячная і сэрцам, і рукой
За тое, што мяне так непрыкметна
Кахаеце: за мой начны спакой;
За тое, што я бачу Вас так зрэдку;
Што мы пад месяцам ніколі не прайшлі;
Што сонца, узышоўшы, іншых цешыць.
За тое, што мы разам не былі,
І мне — шкада! — не заступіць за межы.

*Пераклад Тэрэсы*

## Уладзіслаў Я.

***

Нядобрай волі нашае вызнаньне:
Здранцьвелая, Марыся, доўга сьпіш,
Гаротных дзён, пакутнага блуканьня
Наканаваны мусіш несьці крыж.

Нямашака мінулай прыгажосьці,
У дамавіне спарахнелы прах,
Дарма я непакою твае косьці,
Разносячы па краі трупны пах.

Але ж і я прыйшоў з другога сьвету.
Мой дух, Марыся, тога не міне.
Хто перапросіць Бога за паэта?
Лукіскі пляц згадае і мяне!

«З-пад шыбеніцы» верш мой прачытае,
Там я казаў няпраўду: «...усё прайшло».
Не, быў бы дождж — насеньне прарастае.
Зялёнай руньню збожжа ўзышло.

І, ганьбаю паліты, мой народ
Шыхты рыхтуе на рашучы бой.
Не, першае каханьне не праходзіць, —
Марыся, я ўваскрос,
І я з табой!

### літаратурны сэмінар «Варштаты»

***Івану Пад-му.*** *Ваш «Бязбожнік» вельмі вялікі. Старайцеся пісаць карацей і вершамі грашыце сур'ёзна.*

***Расьціславу Ва-ку.*** *Сны аб Беларусі ў «Белым вершы» аптымістычныя, і гэта абнадзейвае. Але не забывайцеся пра рэальны сьвет, у якім, акрамя сноў, ёсьць яшчэ і сонца, якому можна радавацца, і прыгожыя дзяўчаты, якія хочуць, каб мы іх кахалі.*

***Усеваладу Сьце-ку.*** *Верш пра Менск — нішто сабе твор. І ўсё ж «ваяры» і «дамы» не рыфмуюцца. Калі ёсьць жаданьне, пішыце і далей.*

***Сержуку Б-ну.*** *Верш Аленцы С. вы маглі б напісаць лепшы. Паболей пачуцьця і фантазіі.*

***Ганьне Па-цы.*** *Прыгожай мове не навучаць ніякія настаўнікі, калі самі не навучыцеся. А верш, на жаль, не атрымаўся.*

***Віталю.*** *Мяркуючы па вершы, вы чалавек шчыры і нават занадта. І ўсё ж ці варта так прасіць, каб ваша дзяўчына вам даравала і грахі, і ласкі, і маўклівасьць, і тое, «што я цябе апутаў»? Дзяўчаты любяць хлопцаў упэўненых у сабе і здольных на ўсё.*

***Ігару з-пад Кобрыню.*** *Верш не атрымаўся. А вось інфармацыі з-пад Кобрыня пра тамтэйшае жыцьцё-быцьцё, мяркуючы зь ліста, вы маглі б пісаць нядрэнна.*

***Казіміру Невя-му.*** *«А нас ізноў няма нідзе». Усё так. Але гэта ведае амаль кожны. Праўда, ня кожны асьмеліцца сказаць. Пішыце пра тое, што ведаеце толькі вы, і гэта будзе цікава ўсім.*

***Аляксандру Ан-ку.*** *Верш ваш вельмі доўгі і перанасычаны дзеяньнем. Старайцеся пісаць карацей.*

***Арцёму Ар-ку.*** *У творах нешта ёсьць, як ёсьць нешта ў цемнаце. Таму не шкадуйце сьвятла, што ў вас у душы, для сваіх твораў. Вучыцеся.*

***Сержуку Пр-ву.*** *Зь верша можна зразумець, што гэта ў Беларусі «наўпрост пахіліўшысь, Ціхенька завея імжыць, І маленькі вусьцішны ветрык Праз кволыя кветкі бяжыць...» Аднак... Твор далёкі ад таго, каб быць надрукаваным.*

***Анатолю Ка-ву.*** *Сачыце за рыфмай і рытмам. У вершах ёсьць пачуцьцё, і гэта ўжо нямала, каб нешта рана ці позна атрымалася.*

**Віктар Шніп**

# ЛІЦЬВІНЫ-ПЭСЫМІСТЫ

***Літванія. Зборнік матэрыялаў аб Заходняй Беларусі. №1***




Рух за ўтварэньне новае (ці адраджэньне старое) этнічнае супольнасьці — ліцьвіноў — можа й нечаканы, але пэўныя карані яго праглядаюцца досыць выразна. Некаторым дзеячам беларускага Адраджэньня не ўгадзіў народ: ён і несьвядомы, і хворы, і г.д. Іншыя культурніцкія дзеячы вырашылі памяняць сабе народ. Маўляў, гэта беларусы-ўсходнікі несьвядомыя, а мы, ліцьвіны-заходнікі, о-го-го як здаровыя. Адно ці не чакае іх новае расчараваньне ў новым народзе?

Пакуль рух за абуджэньне «ліцьвіноў» і вызначэньне іх зямлі — «Літваніі» (дарэчы, чаму не «Ліцьвініі»?) — гартуе сілы. Зьявіўся новы зборнік матэрыялаў — «Літванія» — з шматабяцальным №1. Апроч уласна «ліцьвінскіх» твораў тут ёсьць, здаецца, адзін тэкст-позірк збоку. У ім — прадуктыўная ідэя параўнаць «ліцьвінскі» рух з колішнім «заходнепалескім» («яцьвяскім»). Магчыма, з таго руху йдуць навуковыя асновы «ліцьвінскага» руху з намаганьнямі як-небудзь абгрунтаваць асобнасьць «ліцьвінскае» нацыі. Калі «заходнепалескія» дзеячы шукалі свае вытокі ў старажытных яцьвягах, дык «ліцьвінскія» ўзялі шырэй — за продкаў уважаюць ня толькі яцьвягаў, але яшчэ дайнову і літву летапісных часоў. Праўда, гэта ўсё не арыгінальнае. Славутая тэорыя балцкага субстрату (г.зн. падложкі) ва ўтварэньні беларусаў шукала ды знаходзіла нашых продкаў-балтаў на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Да таго, летапісныя яцьвягі і дайнова — адзіны народ, тэрміны ідэнтычныя. Да таго, шмат яцьвягаў жыло на тэрыторыі сучаснае Польшчы, і чаму ліцьвіны ня кідаюць позірк у той бок? А так сьціпласьць незвычайная: як сябе акрэсьліваюць «ліцьвіны», дык іхная зямля — заходняя палова Рэспублікі Беларусі зь яе паўночна-заходняю ды паўднёва-заходняю межамі. А межы тыя сталінскія. Навошта сябе заганяць у такія ганебныя граніцы, дзе ж адвечна вольны «ліцьвінскі» дух? Ці не таму такое абмежаваньне, што, як кідае пабочны назіральнік у зборніку, «ліцьвіны» шукаюць у Польшчы саюзьніка? Усходняя мяжа «Літваніі» йдзе праз Менск. Цікава, як яна дзеліць горад? Галоўнае, «ліцьвіны» не адмаўляюцца ад сталіцы, значыць, маюць на яе нейкую надзею. Тут бачыцца рэфлексія на цяперашняе панаваньне ў Менску не-«ліцьвіноў», усходнікаў, «несьвядомых» беларусаў.

Сьвядомасьць і несьвядомасьць займаюць выключнае месца ў «ліцьвінскім» руху. Можа, гэта галоўны, хоць і вельмі няясны крытэр у паўставаньні новае этнічнае групоўкі. Які ж яшчэ можа быць крытэр, калі іншыя не знаходзяцца? Праўда, ёсьць спробы абаперціся на знаных людзей у мінуўшчыне, каб не выглядаць нэафітамі. Сьцьвярджаецца: «Радзівілы, Сапегі, Кішкі, Хадкевічы — усе цэнтральныя родавыя маёнткі нашых ліцьвінскіх фэўдалаў ці, інакш — магнатаў, канцэнтраваліся, вядома ж, на іх Радзіме — у Літваніі — Ліцьвінскай мэтраполіі». Цікава, што ў прапанаваным сьпісе заходнебеларускіх паводле Радзімы (хоць слова гэта тут недарэчы) магнатаў няма. Карані Радзівілаў — у сучаснай Літве, Сапегаў — на Смаленшчыне, Кішкі паходзілі з Польшчы, а Хадкевічы — з Украіны. Родавыя маёнткі гэтых фэўдалаў, як кроплі, пакрываюць усю мапу Вялікага княства Літоўскага, а не адно заходнюю Беларусь. Што іх яднала — адчуваньне палітычнае супольнасьці. У гэтым сэнсе яны былі «сьвядомыя», пэўна — «ліцьвіны». Дый цяпер ведамыя дзеячы, якія з далёкіх ускраін ці з аддаленых земляў прыйшлі ў беларускі рух. Пры пэўных абставінах беларускія дзеячы могуць далучыцца да «ліцьвінскага» руху, але чым будзе ў такім выпадку «Літванія», як не віртуальнаю зьявай? Між тым, папрок у віртуальнасьці робіцца рэальнай Беларусі. Паглядзім, што будзе больш віртуальным.

Разьвіцьцю такой няўлоўнае матэрыі, як дух, мэнталітэт народаў, прысьвечана цікавая схема, зь якой наглядна бачна нават прафанам, што беларусы-ўсходнікі й «ліцьвіны»-заходнікі, хоць у пэўным часе й сыходзіліся ў думках, але цяпер разышліся радыкальна, мо й назаўжды. Застаецца дзякаваць, што беларусам даецца шанец на рэабілітацыю, то бок на набліжэньне да ліцьвіноў: графік іх мэнтальнасьці апошнім часам робіць усплёск.

А ўвогуле ў зборніку шмат трапных назіраньняў і сьвежых думак, што паспрыяе ня толькі «ліцьвінскай», але й беларускай сьвядомасьці. Кідаецца ў вочы глыбокі пэсымізм яго аўтараў, нягледзячы не дэкляраваную веру ў сьветлую будучыню «Літваніі». Час цяпер такі змрочны, пэсымістычны. Чаго варты нават адзін толькі «Маніфэст ліцьвіноў», напісаны стылем Новага Запавету. Так пішуць звычайна нэкралёгі, а не абвесткі пра нараджэньне новага. Каб жа ня стаў маніфэст сапраўдным нэкралёгам руху...

**Валеры Пазьнякоў**

навіны

## Зь Беларусі ў Сэнэгал

Новым кіраўніком Польскага Інстытуту ў Менску — аддзелу культуры польскай амбасады, які дапамагае сёньня беларускім культурным і выдавецкім праектам — прызначаны актор Цэзары Карпіньскі, які раней працаваў дырэктарам Тэатру імя Астэрвы ў Любліне. Томаш Нягодзіш, які ачольваў Польскі Інстытут апошнія тры гады, зьяжджае на пасаду пасла Польшчы ў Сэнэгале.

## Кантроль над дыяспарай

У Міністэрстве замежных справаў да канца траўня ўтвораць новае падразьдзяленьне, прызначанае курыраваць кантакты зь беларускай дыяспарай. Пакуль што гэтыя функцыі выконвае (амаль бяз плёну) Дзяржкамітэт у справах рэлігіяў і нацыянальных мяншыняў. Узначаліць новую «структурную адзінку» былы міністар культуры і пасол Беларусі ў Літве Яўген Вайтовіч.

## Скандальны фільм

Міхаіл Пташук скончыў здымаць свой блёкбастэр «Момант ісьціны», які «зьеў» амаль увесь леташні і сёлетні бюджэт беларускага мастацкага кіно. Плянавалася, што прэм'ера стужкі адбудзецца ў Крамлёўскім палацы 9 траўня з удзелам Лукашэнкі і Пуціна. Яе нават зьбіраліся паслаць на Міжнародны фэстываль у Канах і ўжо зрабілі рэклямны ролік, але заўпарціўся сцэнарыст Уладзімер Багамолаў. Ён патрабуе прыбраць з тытраў ягонае імя, бо фільм у Пташука атрымаўся надта фальшывы. У семідзясятыя гады Багамолаў дамогся закрыцьця першага фільму паводле гэтага сцэнару, за які браўся Вітаўтас Жалакявічус — маўляў, «нярускі чалавек няздольны праўдзіва паказаць перамогу ў вялікай айчыннай вайне». Прэм'ера стужкі цяпер перанесеная на 3 ліпеня.

**Юрась Барысевіч**

## Новыя народныя песьні

Браслаўскае краязнаўчае таварыства імя Ота Хедэмана выдала зборнік папулярных беларускіх песьняў «Сьпявайма разам!». Гэта песьні, што карысталіся найбольшай папулярнасьцю на леташнім археалягічным летніку «Рацюнкі», які наладжвала таварыства. Большасьць песень — з рэпэртуару беларускіх рок-гуртоў, бардаў, з «Народнага альбому», аднак аўтарства ў зборніку не пазначанае, бо, на думку выдаўцоў, усе гэтыя песьні ўжо сталі народнымі, паведамляе Беларуская Асацыяцыя Рэсурсавых Цэнтраў.

## Трышчан і Іжота

Тры дні — з 11 да 13 траўня — у Магілёўскім драмтэатры праходзіла прэм'ера спэктаклю «Трышчан і Іжота» — паводле новай вэрсіі сярэднявечнага раману (аўтар Уладзімер Кавалёў), якую паставіў былы дырэктар магілёўскага Тэатру лялек Алег Жугжда. Спэктакль закрываў сёлетні тэатральны сэзон. У магілёўскім беларускім асяродку «Кола сяброў» прайшла ўрачыстая сустрэча актораў, рэжысэра і сцэнарыста з гледачамі.

**Б.Т.**

Выйшаў першы нумар аналітычна-крытычнага агляду «**ARCHE-Скарына**». Нічога падобнага па стылі й жанры ў 90-х гадах па-беларуску не выходзіла. На 72 старонках часопіса надрукаваныя артыкулы Валеркі Булгакава «Каляндарык для кастрата» пра беларускае выданьне з самым вялікім накладам — каляндар «Родны край», Андрэя Екадумава «Час імпэрыі мінуўся» пра кнігу З.Бжэзінскага «Вялікая шахматная дошка» і яе пераклад на расейскую мову, Андрэя Хадановіча «Вісячыя Вертаграды» пра Міхася Баярына, «паэта для чытаньня розумам», Вольфа Рубінчыка пра сучасныя праблемы беларуска-жыдоўскіх адносінаў. Кшыштаф Чыжэўскі распавядае пра сваё басьнійскае падарожжа, Людміла Рублеўская робіць агляд літаратурнага году. Адкрываецца нумар эсэ Вацлава Гаўла, а завяршаецца гісторыяй авантурнага жыцьця і таямнічага зьнікненьня Фрэда К'юні, які прапаў у Чачэніі, а быў ці то сучасным Лоўрэнсам Арабійскім, ці то агентам СІА.

*Пытайцеся ў кнігарнях, шапіках «Белсаюздруку», у прыватных распаўсюднікаў, у кнігарнях БНФ і ТБМ, а таксама падпісвайцеся — з другога паўгодзьдзя на часопіс ARCHE абвяшчаецца падпіска.*

**ПАДПІСКАЮ — ТАНЬНЕЙ.**

ARCHE — новы сьвет слова.




## новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Беларускі Праваслаўны каляндар**, 2000. Звод імёнаў сьвятых Беларускай Праваслаўнай Царквы напярэдадні Раства Хрыстовага / Укладальніца Т.Матрунчык. — Менск: Сьвята-Петрапаўлаўскі сабор у м.Менску, Беларускае праваслаўнае брацтва трох Віленскіх мучанікаў, 1999. — 160 с., іл. — Наклад 250 ас. ISBN 985-6594-02-2

*Беларускі царкоўны каляндар выйшаў гэткім малым накладам, што даводзіцца меркаваць, што ў нас альбо вернікі ўсходняга абраду нічога не чытаюць, альбо не засталося вернікаў-беларусаў.*

**Бюлетэнь Асамблеі недзяржаўных арганізацыяў Беларусі.** № 1, люты 2000. — Менск, 2000. — 161 с. — Наклад 299 ас.

*Асамблея зьмяніла выгляд свайго бюлетэню, але й зьмест стаў жывейшы.*

**Каталог почтовых марок Республики Беларусь. 1999.** — Менск, 2000. — 28 с.: іл.

*Зьмешчаныя выявы й падрабязныя зьвесткі пра паштовыя маркі нашае краіны, падаецца пералік і апісаньне капэртаў ды паштовых штэмпэляў. Сёлета, у адрозьненьне ад мінулых гадоў, каталёг выйшаў па-расейску. Набыць можна на Галоўнай пошце ці ў краме «Філятэлія» (вул.Маскоўская 16). Цана 1800 рублёў.*

**Кто есть кто в Беларуси. Хто ёсьць хто ў Беларусі. Who's who in Belarus** / Складальнікі В.Галубеў, А.Кіжэ, А.Смольскі, В.Трыгубовіч, Г.Ахметава, В.Чуйко. — Масква: Кніжны дом «Университет», 1999. — 176 с. — Наклад 3000 ас. ISBN 5-8013-0068-6

*Апошнім часам выйшла ўжо некалькі даведнікаў кшталту гэтага, але ўсе яны асноўную ўвагу скіроўвалі на кіраўніцтва краіны й адпаведнага сьветагляду творцаў пяра й пэндзля. Гэтая кніга прынцыпова розьніцца ад іншых. Напісаньне імёнаў і прозьвішчаў падаецца ў беларускай, расейскай і ангельскай мовах, сам тэкст па-расейску. Аўтары кажуць: «Магчыма ня ўсім «героям» мы сымпатызавалі, адылі ўсіх імкнуліся зразумець і паказаць усебакова, бо толькі праз людзей можна зразумець грамадзтва». Даведнік можна набыць у выдавецтве «Беларускі кнігазбор» (тэл. 220-70-27) за паўтысячы рублёў.*

**Кто есть кто в Республике Беларусь. Люди дела** / Пад рэдакцыяй І.Чакалава. — Менск: Энцыкляпэдыкс, 1999. — 350 ас. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-6599-02-4

*Аўтары паспрабавалі сабраць пад адной вокладкай усіх «дзелавых людзей» Беларусі — ад калгасьнікаў да пісьменьнікаў. Але трохі перастараліся — Вітаўт Чаропка, паводле аўтараў, напісаў дзьве кнігі: «Гісторыя машаны імя» і «Перамога леню» (насамрэч «Гісторыя нашага імя» і «Перамога ценю»). Кніга каштуе шалёныя грошы — 11700 рублёў, прадаецца ўва ўсіх кнігарнях.*

**А.Лапицкий. За железным занавесом. Жертвам политических репрессий посвящается.** — Менск, 1999. — 104 с.

*З пазыцыяў артадаксальнага марксізму аўтар дае сваю вэрсію выйсьця зь цяперашняга эканамічнага крызысу. Адмаўляецца сьцьверджаньне пра скон камунізму ў СССР. А.Лапіцкі разглядае колішнюю савецкую дзяржаву як капіталіста ў дачыненьні да работніка й як фэўдала ў дачыненьні да калгасьніка.*

**Мэтрыка Вялікага Княства Літоўскага.** Кн. 28 (1522—1552 г.). Кніга запісаў 28 / Рыхтаваньне тэкстаў да друку й навуковы апарат: В.Мянжынскі, У.Сьвяжынскі. — Менск: Athenaeum, 2000. — 312 с.: іл. 8. — («Помнікі», т. 1). — Наклад 500 ас. ISBN 985-6374-10-3

*Праца выканана ў Інстытуце гісторыі Беларускай Акадэміі Навук і выдадзена ў межах міжнароднага праекту для дасьледаваньня й публікаваньня Мэтрыкі. Набыць можна за 10 у.а. у сядзібе ТБМ у Менску (Румянцава 13), у «Акадэмкнізе» каштуе 16 мільёнаў.*

**Пушкін — беларуская культура — сучаснасьць:** Матар'ялы Міжнароднай навуковай канфэрэнцыі (Менск, 26—27 траўня 1999 г.), — Менск: Беларускі кнігазбор, 1999. — 346 с. — (Беларусіка=Albaruthenica; Кн.12). — Наклад 300 ас. ISBN 985-6318-53-X

*Робіцца каторая ўжо спроба правесьці думку пра ўплыў расейскага клясыка на разьвіцьцё беларускае культуры.*

**Слоўнік беларускай мовы (цяжкасьці правапісу, вымаўленьня, акцэнтуацыі, словазьмяненьня).** — Менск: Сучаснае слова, 2000. — 320 с. — Наклад 8000 ас. ISBN 985-443-139-8

*Выданьне можна было б адзначыць як бездакорнае, каб там не вучылі чытачоў вымаўляць «чэшскі» ды «пра шскі».*

Л.Смиловицкий. **Евреи Беларуси: из нашей общей истории, 1905—1953 г.** Зборнік артыкулаў. Навукова-папулярнае выданьне. — Менск: Арты-фэкс, 1999. — Наклад 250 ас. ISBN 985-6119-42-1

*Аўтар, што цяпер жыве ў Ерусаліме, робіць усьлед за сваімі беларускімі папярэднікамі спробу асьвятліць найважнейшыя этапы гісторыі жыдоў Беларусі. Асобная ўвага надаецца галакосту й праведнікам народаў сьвету, якія ратавалі жыдоў з рызыкай для ўласнага жыцьця ў часе другое сусьветнае вайны.*

**Спадчына.** № 1, 2000. — Менск, 2000. — 224 с. — Наклад 1889 ас. ISSN 0236-1019

*«Спадчына» выйшла са спазьненьнем. Часапіс стаў даражэйшым — каштуе 800 рублёў, а гэтаксама зьменшыўся наклад. Але галоўны рэдактар Вячаслаў Ракіцкі аптыміст — у Вугоршчыне й Чэхіі гэткія выданьні маюць ня больш за 500—700 чытачоў.*

**Агляд падрыхтаваў Віктар Мухін**

ліст былому аднакашніку

# ДУМАЙ ПРА ВЕЧНАЕ,

## або Як я трапіў на «генэральскі» юбілей



Высокаўганараваны, вельмі шаноўны Леанідзе Мартынавічу!

Выбачай за фамільярнасьць, але буду на ты.

Уяўляю на тваім аблічны няўцям і раздражнёнасьць. Як і тады, калі ты незнарок сутыкнуўся са мною, незапрошаным, у кавярні Дому літаратара. Выбачай, шаноўны, што на хвілю патрывожыў твой сьвяточны настрой. Павер, не ў маім характары настырацца і трапляць туды, дзе ня хочуць бачыць. Ды да цябе ж у будзень не падступісься — дбайна ахоўваюць цябе ад непажаданых сустрэч і размоваў.

Першы раз тэлефанаваў табе ў Смалявіцкі раён дзесьці на зыходзе лета. Якраз наведаў Беларусь мой даўні знаёмец (родам са Стаўпеччыны), намесьнік Нурсултана Назарбаева па Асамблеі народаў Казахстану Павал Атрушкевіч. Зь ім, між іншым, мы размаўлялі і пра тое, як нашыя ўлады ня ўмеюць выкарыстоўваць сувязі зь землякамі ў замежжы. А таму Павал Аляксандравіч выявіў ахвоту паспрыяць у Беларусі прыватным прадпрымальнікам.

Я табе, браце, тэлефанаваў тады мо разоў зь дзесяць, але ўвесь час трапляў на сакратарку. Абяцала злучыць з шэфам, у слухаўцы чуўся шчаўчок, потым, нібы запрашэньне на чарку, нязьменнае пі-пі-пі. Урэшце пакінуў свой нумар тэлефону, хоць і разумеў марнасьць намеру пачуць твой голас.

Ну а потым, месяцы праз два, на мяне насеў знаёмы, дырэктар гандлёвай фірмы, хлопец увогуле нядрэнны, свойскі і беларус ня толькі па пашпарце. Пагамані, калі ласка, з гэтым Дайнэкам наконт тавару, а я з прыбытку ахвярую долю на тую ж, што і ён у сваіх творах спавядае, справу... Тут, як бачыш, ішло не пра маё асабістае, а таму, пераадольваючы сябе, я зноў пачаў тэлефанаваць у твой ці то «Пасад», ці то «Белпі», нават ня ведаю, якую назву мае твая фірма, а мо ты і абедзьве ўзначальваеш. Ды і на гэты раз вынік быў той самы...

Трэці ж раз (гора маё!) зьвярнацца да цябе проста змусіла службовая нявыкрутка. Гэта ж я, дружа, заўчасна даў маху, бо яшчэ задоўга да юбілею пераканаў рэдактарку газэты, дзе працую, што ты надзвычай таленавіты пісьменьнік і бізнэсовец, карацей — Асоба, якую ну ніяк нельга абысьці маўчаньнем.

Прызнаюся, Лёня, ня так хацелася пра цябе напісаць, як карцела, асабліва пасьля нашумелага артыкулу ў «Звяздзе», ва ўсім разабрацца самому на месцы і пагаварыць з простымі людзьмі, зь якіх ты, калі верыць той публікацыі, проста зьдзекуешся пры патураньні раённага начальства: нават пазбавіў іх такой важнай жыцьцёвай патрэбы — лазьні. І ведаеш, твае зацятае нежаданьне ня тое што сустрэцца, а нават адгукнуцца на покліч колішняга аднакурсьніка, а потым і калегі па пісьменьніцкай арганізацыі, наводзіць на думку, што так яно, як напісала Алена Ляўковіч у артыкуле «Генэрал лазьні», і ёсьць папраўдзе...

А на твае Ўгодкі як магнэзам цягнула. Апанаваў няўцерп даведацца, які ты з выгляду і што цяпер за душой маеш, хто і з чым зьвяўцца на твае ўшанаваньне і як увогуле будуць уганароўваць ня проста пісьменьніка, а чалавека, які, кажуць, валодае немалым багацьцем, пачынаючы ад добра вядомай мне камяніцы на Лысай гары, катэджу ў стылі сярэднявечнага палацу, што адмысловай чырвонай цэглай ярка палымнее па дарозе на Ракаў, і канчаючы немаведама чым, мо, як ходзіць пагалоска, уласным домам на Кіпры. Мяне, павер, Лёня, мала абыходзіць твой набытак, бо па натуры не зайздросьнік і сэнс жыцьця бачу зусім у іншым. Дый, калі пакумекаць, няма надта чаму й зайздросьціць! Бо капітал, пагадзіся, павінен працаваць на людзей, а не марнавацца закапаным і забэтанаваным... І прызнайся, браце, навошта вам, так званым новым беларусам (а мо рускім, га?) так шмат усяго?! Дзе ж табе выкруціць час на ўсе тыя палацы-лецішчы, бо ты ж не абібока і не функцыянэр, а Гаспадар, якому трэба быць на працы і самому за ўсім сачыць, бо іначай набытак будзе не прырошчвацца, а ўсыхаць, а ўся твая вытворчасьць «запускацца» так сама, як ужо колькі год запар запускаецца ўся дзяржаўная прамысловасьць, ну а сельская гаспадарка дык увогуле на мяжы скананьня...

Дык вось мне і карцела ўведаць, што засталося ў табе ад таго віхрастага Лёні, а потым Лявона, з якім разам вучыліся і сталаваліся, працавалі на цаліне, а перад тваім зыходам — і ў «Мастацкай літаратуры», адкуль ты, імгненна адчуўшы новыя павевы, адважна ступіў на новую дарогу і заснаваў прыватную выдавецкую фірму. Ды неўзабаве спахапіўся, што на кнігах, хоць і выдаваў прыбытковых расейскамоўны шырпатрэб, вялікіх, а тым больш хуткіх, грошай ня зробіш.

Зайшоўшы і разгледзеўшыся ў вялікай залі, я вельмі зьдзівіўся, што там не было колішніх маладосьцеўцаў, зь якімі ты колісь ладны дзясятак гадоў адпрацаваў — Генадзя Бураўкіна, Міколы Аўрамчыка, Уладзімера Дамашэвіча. Бо яны ж ня проста твае колішнія паплечнікі, выдатныя пісьменьнікі і людзі, але й Грамадзяне зь вялікай літары, не пабаюся высокага слова, гонар нашай нацыі. Дык ці ты іх не запрасіў, ці яны зь нейкай прычыны самі да цябе не прыйшлі? А дзе ў гэты дзень падзеўся Алесь Мікалайчанка?.. Ці ты, Лёня, забыўся, як ягоны бацька, на той час першы сакратар Бялыніцкага райкаму, штопанядзелка прысылаў свайму сыну вялізны кош з прысмакамі. Ты яго першым сустракаў ля ўваходу ў інтэрнат і нёс, быццам каханак любую, у наш пакой і, сьмешачы нас, завіхаўся ля яго добрае паўгадзіны. Адкуль толькі браліся ў цябе жарты і трапныя сакаўныя народныя слоўцы. Ці ня там, у тым кашы, ты й нарадзіўся нанова, ужо як беларускі паэт, бо дасюль жа ня толькі пісаў па-расейску, але і, прыехаўшы з Расеі, дзе і як толькі мог, высьмейваў нас, хлопцаў беларускай вёскі, што ня выракліся свайго...

Каб ты, Лёня, толькі ведаў, у які сорам я сябе ўвагнаў, намерыўшыся без запрашальніка пранікнуць туды, куды пасьля гарачых прывітальных прамоваў і канцэрту «Беларускіх песьняроў» памкнулі табой абраныя. Звычайна ж ніхто ў кавярні Дому літаратара ўваходных не пытае, але на гэты раз у парозе пагрозьліва ўзвышаліся два твае асабістыя целаахоўнікі-амбалы, якія пільна абмацвалі, праўда, не рукамі, а вачыма, гасьцей, якія са сьцішаным трымценьнем падыходзілі да запаветнага парогу, трымаючы, як іконкі, запрашальнікі ў гэтае, для большасьці звабліва-таемнае, няхай усяго на некалькі гадзінаў, але райскае жыцьцё. Мне разам з усімі трэба было прайсьці праз своеасаблівы чысьцец...

Пашанцавала. І я, «чужы сярод сваіх», апынуўся ў залі, усьцяж застаўленай сталамі, на якіх... ды лепш памаўчу. Усьлед за перакуленымі чаркамі забразгацелі, застукацелі па талерках відэльцы. Настолькі ўсё было ўзрушліва і эпічна, што міжволі згадаліся чутыя яшчэ ў маленстве словы, якія, мяркую, могуць пацягнуць на сапраўдную паэзію: «Як забразгацелі нажэ, ды аж заскакалі гарбузэ на Монічавум агародзі». Так наш вясковы дзядзька перадаваў узрушэньне ад бойкі, што ўзгарэлася паміж вяскоўцамі.

На жаль, я не валодаю дарам, каб сьцісла, усяго некалькімі словамі перадаць уражаньне ад таго, што адбывалася за юбілейнымі сталамі. Сюды б нашага гучнагалосага Браніслава Спрынчана! Ды ён, мабыць, быў на той час у Крамлі, дзе ў чарговы раз напэўна ня зь меншаю пышнатою адзначалася стварэньне саюзнай, Беларусі з Расеяй, дзяржавы.

На твой юбілей, калі ты заўважыў у тлуме, прачулымі радкамі адгукнуўся славуты яшчэ са «Сказу аб Лысай гары» паэт-сатырык Мікола Вяршынін, які тут жа, не вылазячы з-за стала, праказаў-праляяў табе вялікі панегірык. Я быў пачаў прыслухоўвацца да ягоных словаў, якія зрэдзь залятаілі ў вуха праз гаману, але раптам апанавалі сум і туга: міжволі завярэдзілі душу выявы чачэнскай вайны, ахопленыя агнём і дымам гарады і аулы, зь якімі расейскія рэгулярныя войскі вядуць змаганьне, выпальваючы, вынішчаючы найсучаснай зброяй, як яны кажуць, бандытаў. Згадалася Вялікая Айчынная, нашыя гарады і вёскі, нашыя партызаны, якіх фашысты называлі тым самым імем, ахопленых дымам-полымем будынак расейскай Думы, на якую некалькі гадоў назад таксама пайшлі наступам танкі і артылерыя. Што тут парадзіш: ваяўнічы да бясконцасьці наш «вялікі брат» — ня трапіць пад руку хто з боку, дык у сваім уласным асяродзьдзі бойку распачне! Так было спрадвеку, праз усю яго напоўненую жахамі, драмамі і трагедыямі гісторыю; так, выглядае, ён і завершыць свой шлях у будучыню. Але пры чым тут мы: рахманыя, памяркоўныя, працавітыя і ўраўнаважаныя?! Скажы, Лёня, а цябе не ахоплівае трывога, у тым ліку і за сваіх трох, прыгожых і зграбных, адзін пад аднаго, сыноў, якія так хараша віталі цябе на вечарыне? Ці і ты, як цёмны вясковы люд, сапраўды шчыра паверыў «бацьку», што беларускія вайскоўцы ніколі ня будуць ваяваць за чужыя інтарэсы і на чужой тэрыторыі?! Гэта значыць ні сёньня, ні заўтра, і ні праз тысячу гадоў! Во як: на два гады наперад нічога адгадаць і прадказаць ня можам, а тут...

Большасьць банкетаўцаў мне былі незнаёмыя — мабыць, іншамаркаўцы, людзі з вышэйшых сфэраў. З нашых аднакурсьнікаў у шуме і гамане прыкмеціў трох: Віктара Леганькова, майго сябра Сьцяпана Сьцяпанавіча і Пятра Ліпая. Апошні мог прымчацца прывітаць цябе і без запросінаў: ягоная паэтычная душа (ён жа, калі ня ведаеш, цяпер і песьні складае) адчувае такія, як на тваёй вечарыне, мэлёдыі жыцьця здалёку, а таму — дзе весяліцца беларускі люд — там і ён, наш слаўны Пятро!

Іншая рэч Віктар і Сьцяпан Сьцяпанавіч. Іх ня грэх ня толькі хараша па тэлефоне запрасіць, але і машыну падасладзь: абодва — людзі прыпасадныя і табе патрэбныя. Бо ці ж ня ёсьць першы намесьнік рэдактара «Белорусской нивы» гарантам таго, што там сьмеху і зьдзеку з «генэрала» ня ўчыняць?! Ну проста наўзьдзіў абачліва-дагаджальная газэта! Памятаеш жа, як яна ўслужліва падхапіла колісь сказаныя на прыступках нашага ўнівэрсытэту вялікім марксістам-ленінцам Мікітам Хрушчовым словы пра тое, што беларусы першымі ўступяць у камунізм, бо пагадзіліся першымі адмовіцца ад роднай мовы на карысьць расейскай! Пасьля такіх геніяльных «откровений» газэта і перайшла на «великий и могучий» і выдаецца на ім дасюль. А як жа інакш! Нашыя ж вяскоўцы ну зусім не разумеюць па-свойму! А ўжо да чаго хараша і мілагучна размаўляюць па-расейску — любата дый годзе! «Я вам, уважаемыя жэншчыны, должан аткравенна сказаць, што кароў надо выдаівать более абстаяцельна. Так што, дарагія мае, паднатужцесь! Тагда і пацячот ад дзіравенскіх буронак малако у ізбытке к гарадскім жыцялям!»

Паднатужыліся і... «цячоць» — падбеленая паўтара, а то й адным працэнтам вадзічка: пі, еш і радуйся, зубы сьцяўшы!..

А мо ты, Лёня, забыўся, як некалькі гадоў назад былая «Сельская газета», пераназваная на «Белорусскую ниву», да глыбіні сваёй інтэрнацыянальнай сьвядомасьці абурылася і ўстурбавалася, што ў Прыбалтыцы на вачох развальваюцца калгасы, і людзі там неўзабаве пачнуць пухнуць з голаду, а ў нас пад мудрым кіраўніцтвам усё будзе наадварот! Яно і праўда атрымалася наадварот! Ці мо, скажаш, у суседняй Літве не было, як у нас, пазалетась гнілога, а летась сьпякотнага лета? І во дзіва-дзіўнае: там накасілі, нажалі ды накапалі столькі, што праблема ня ў тым, дзе таньней чужое купіць, а каб сваё даражэй збыць...

То й ня дзіва, што намесьнік галоўнага рэдактара «буйну галаву павесіў» і за ўвесь твой юбілей так ні разочку і не ўсьміхнуўся, прасядзеў, не раўнуючы, як на хаўтурах па блізкім чалавеку.

Апошні кадар, які адклаўся ў маёй памяці — ты са Сьцяпанам Сьцяпанавічам застылі ў абдоймах пасярод вітальні ў страсным пацалунку, ці ня ставячы тут новае дасягненьне пасьля вядомых сьвету рэкордаў парнага цалаваньня Брэжнеў-Хонэкер і Чарнамырдзін-Кебіч. Мо, падумалася, замацоўвалі вуснамі (бо пячаткаў, мяркую, пры сабе ня мелі) дамову, што табе пасьля такога юбілярнага ўзьнясеньня гарантаваны тытул клясыка і, адпаведна, манаграфічны разьдзел у акадэмічнай гісторыі беларускай літаратуры, нават, калі і далей так удала пойдуць інтэграцыйныя працэсы, дык і расейска-беларускай...

Я, пакінуўшы вас і далей весяліцца, выйшаў на двор. Цяжкая, на паўнеба, сьвінцовая хмара падымалася на ўсходзе з далягляду, усё болей набрыньвала цемянью і ў няўмольным наступе насоўвалася на сьцяты ў паняверцы маладзічок, што тузаўся між разарванах хмурын, спрабуючы выбавіцца на прастор. Падумалася: мо перада мною ў небе сымбаль дарэшты затузанай і апанаванай трывогамі Бацькаўшчыны, якая стала закладніцай нядобрай сілы, разьменнай манэтай у руках «кукловодов», якія могуць распарадзіцца яе лёсам жорстка і няўмольна, цынічна ператтвараючы жыцьцё ў крою і попел, прыгажосьць і талент — у небыцьцё. Бо нашае (спадчына, мова, культура) для іх чужое, непатрэбнае і нявартае ўвагі. А яшчэ пажадалася: няхай нашыя браты-расейцы (дай толькі, Божа, ім прасьветлага розуму і адвядзі іх «гнеў» ад іншых народаў) у міры і згодзе будуюць свой расейскі дом, украінцы — украінскі, а мы, беларусы, таксама свой. Беларускі.

Карацей, жыць і рабіць, як спрадвеку заведзена ў добрых і талковых людзей: кожны ў сваёй хаце ці кватэры, але з адчуваньнем братняга локця. Дый з чужымі людзьмі заядацца ня трэба. Бо, калі ўдумацца, усе мы, народы і нацыі, на нашай маленькай плянэце, што тысячагодзьдзі кружляе ў бязьмежным сусьвеце, людзі-браты. А таму на любы нармальны, не папсуты хцівасьцю і здрадай, розум камуналка пад назваю «Усярусь» нікому і не патрэбна. Ці ж ня так, дарагі дружа Лявоне?..

Ад шчырага сэрца жадаю, Лёня, табе і тваёй сям'і ўсяго самага найлепшага.

Яўген Лецка



# STOPLUKAFILM

*«НЕЗВЫЧАЙНЫ КАНЦЭРТ». Stoplukafilm, Менск, 2000.*

Гэтай вясною нечаканым падарункам для некаторых сацыяльна-актыўных аматараў рок-музыкі стаўся несанкцыяваны і незапланаваны ўдзел у здымках відэакліпаў на песьні «Крамы», NRM, «Новага Неба», «Нэйрадзюбэля» і нават **Pink Floyd**.

Ідэя стварэньня альтэрнатыўных кліпаў «павісла» ў паветры даўно. Прынамсі, асабіста мне карцела паглядзець, што будзе, калі аздобіць любімыя песьні дакумэнтальнымі кадрамі з кронікі менскага супраціву, яшчэ з сакавіка 1996 г. Пакуль на рок-канцэртах крычалі «Жыве Беларусь!», а на мітынгах сьпявалі «Партызанскую», ідэю вылавілі, матэрыялізавалі, і наша музычная рэчаіснасьць нарэшце атрымала сваё відэаўвасабленьне: ужо больш за месяц «Незвычайны канцэрт» блукае па краіне дый за еймі межамі, асядаючы ў відэатэках беларускіх мэляманаў чарговай «крамольнай» касэтай. Восем кліпаў, аб'яднаных назовам, нельга вызначыць як музычны фільм — для гэтага патрэбна добра выпрацаваная агульная канцэпцыя, а яе якраз не стае, але гэткае «сьвята мантажу» прыцягвае ўвагу хаця б дзеля таго, каб параўнаць варыянт, прапанаваны *STOPLUKAFILM*'ам з тым, які кожны з нас ствараў для сябе пад час розных несанкцыяваных мерапрыемстваў. Як сапраўднае спарадженьне постмадэрнісцкай прасторы, «Канцэрт» пабудаваны на ўсялякім цытаваньні папярэднікаў: выкарыстаныя фрагмэнты са знакамітай стужкі «Звычайны прэзыдэнт», арыгінальны **Pink Floyd**'аўскі кліп і нават асобныя кадры з «Камандас» (у «Партызанскай»).

Калі казаць пра дакумэнтальную аснову, дык гэта кадры, усім добра вядомыя з тэленавінаў. Гэта той самы «малюнак», у стварэньні якога заўжды абвінавачваюць арганізатараў і ўдзельнікаў усіх мітынгаў і шэсьцяў. Ня вельмі ўдала толькі, што тыя самыя «малюнкі» пераходзяць з кліпу ў кліп. На пачатку прагляду твары сяброў і знаёмых на экране яшчэ цешаць: маўляў, мы ўжо спрычыніліся да Гісторыі. Але кожны новы кліп набліжае апатыю, добра зразумелую сталым наведнікам усіх акцыяў апазыцыі: тыя самыя людзі, тыя самыя твары, самі ходзім, потым самі пра сябе пішам, самі сябе здымаем, самі чытаем і глядзім. Утвараецца замкнёнасьць, якую цяжка разарваць нават пашыраючы прастору з дапамогай **Pink Floyd**. Можа, з-за гэтага найбольшую цікавасьць выклікаюць песьні не «пра нас», а «пра яго», бо глядзець, як спадар прэзыдэнт рухаецца ў такт Шалкевічавага «Таварыша Сапегі», — суцэльная асалода. Зрэшты, кліпы можна клясыфікаваць ня столькі па галоўных героях, колькі па тым, што было ў іх першасным — песьня ці зьява. Тыя, хто ўжо пасьпеў паглядзець «Незвычайны канцэрт», сярод найбольш удалых кліпаў называюць «25, 26, 27...» (NRM) і «Ехали уроды на поминки» («Нэйрадзюбэль»). Першы зь іх якраз і ёсьць прыкладам таго, як спачатку была зьява, потым на яе падставе паўстала песьня, якая ў сваю чаргу была праілюстраваная той самай зьявай, што каліс спарадзіла яе. Калі дадаць сюды добрае тэхнічнае выпрацоўваньне і ўдала змантаваныя кадры — посьпех амаль гарантаваны. Але глядзець на гэта ўсё адно ня так цікава, як, да прыкладу, на менш прадказальны і больш творчы праект, калі песьня і зьява існавалі ў нашай сьвядомасьці абсалютна незалежна адна ад адной і сваім спалучэньнем выклікалі да жыцьця нешта новае, непрадказальнае і незалежнае. З гэтага гледзішча кліп «Ехали уроды на поминки», аздоблены кронікай падпісаньня дамовы паміж Расеяй і Беларусяй, ёсьць, бадай, найлепшым дасягненьнем «Канцэрту».

Пытаньне, як жа вызначыць жанрава-відавую прыналежнасьць прэзэнтаванай *STOPLUKAFILM*'ам стужкі, заходзіцца ў стадыі вырашэньня. Ва ўсялякім разе, спробы зьвязаць кліпы паміж сабою з дапамогай заставак са «Звычайнага прэзыдэнта» сьведчаць, што «Незвычайны канцэрт» прэтэндуе на тое, каб называцца «творам», а ня проста падборкай кліпаў, хаця гледачоў не пакідае ўражаньне «недаробленасьці». Можа, гэта з-за таго, што ў кожнага даўно існуе свой варыянт «Незвычайнага канцэрту», які зьявіўся прыкладна аднachасова са зьяўленьнем «Партызанскай». «Партызанская» завяршае канцэрт настальгічнымі кадрамі бел-чырвона-белага афіцыёзу. Гэткі прыхаваны падарунак гледачам: можна ўявіць, што гэта не «было», а хутка «будзе».

Між іншым, калі хто добра вучыў гісторыю, памятае, што «Канцэртам» у свой час называўся другі этап рэйкавай вайны, і ў мінулы раз сьледам за апэрацыяй «Канцэрт» неўзабаве адбылося вызваленьне Беларусі.

**Ганна Штэйнман**


*Бо заплата за грэх — сьмерць, а дар Божы — жыцьцё вечнае ў Хрысьце Ісусе, Спадары нашым. Рымл. 6:23.*

**БЕЛАРУСКАЯ ЭВАНГЕЛЬСКАЯ ЦАРКВА**
штонядзелю ў Менску а 17-й гадзіне:
вул.Любімава 21-56,
тэл.: 279-71-31, 270-89-87;
штонядзелю ў Асіповічах аб 11-й гадзіне:
вул.Леніна 40, тэл.: 20-840.

**ДЭМАНСТРАЦЫЯ** беларускага відэа, аўдыё, кніжак, часопісаў, вырабаў з керамікі і саломкі праводзіцца ў сядзібе ТБМ у Менску (Румянцава, 13)
з 14.30 да 19.00,
у сераду з 11.00 да 15.00,
у суботу з 17.00 да 19.00,
нядзеля — выходны.
*Прагляд відэафільмаў — па суботах а 18-й гадзіне.*


Людмілу і Аляксея ЗНАТКЕВІЧАЎ
віншуем з нараджэньнем Антосіка.
Хай расьце здаровенькі!

*Сябры*



## прыватныя абвесткі

**археалёгія**

Клюб А.К. запрашае ў легендарную **археалягічную экспэдыцыю «Палаціда-2000»**. Адпачынак летам на прыродзе. Т.: 258-64-29, Марат

**бранзалет**

**Бранзалет** вялікі мядзяны лекавы набуду. Т.: 224-79-63

**відэа, музыка**

**Аматары відэа!** «Беларускі Відэаклюб» перакладзе раней той фільм, на які атрымае найбольш Вашых заявак: 220107, а/с 150. E-mail: belvidea@hotmail.com

**Відэа па-беларуску.** Жадаеце каталёг — дашлеце капэрту + купон (220107, а/с 150) ці ідзеце на сайт: http://belvidea.cjb.net

**GEGA RUCH**, дашлеце, калі ласка, сьпіс наяўнай экстрэмальнай нэапаганскай музыкі на адрас: 224002, Берасьце-2, Жукава 7-43, Пр.С.

**вітаньні**

**Натальлю Плешчанку** віншую з Народзінамі! Зычу шчасьця і ўдачы, ня ведаць у жыцьці нястачы. Я

**для дабрадзеяў**

**Ларыса Геніюш. «Выбранае»** — новы том «Беларускага кнігазбору». Выйдзе ў жніўні! Да 90-х угодкаў. Новыя матэрыялы. Шукаем дабрадзеяў. Т.: 220-70-27

**кантакты**

**Беларускія відэазалі з рэгіёнаў!** «Беларускі Відэаклюб» ТБМ Менску шукае кантактаў з вамі. 220107, а/с 150. Т.: (017) 213-43-52, 240-78-01

**Робім прыстойнымі мову** і веды беларушчыны, псыхалягічна сьцьвярджаемся, робім яшчэ шмат чаго. Туліцеся да нас, і Вам будзе латва. Даведкі праз т.: 235-80-96, панядзелак — серада з 18.00, аўторак — чацьвер з 9.00

**Паважаны С.Шарэцкі**, удакладніце, калі ласка, пра супрацоўніцтва МУС РБ з фашыстамі РНЕ. В.Вянтура

Ці ёсьць **у Берасьці БАМП**? Не ці так, але я жадаю зьвязацца з бампаўцамі. 224002, Берасьце-2, Жукава 7-43

**Сяброў і аднадумцаў** з розных краін сьвету дапамагу знайсьці. Т.: 235-12-58, Зьміцер

Якія **грамадзянскія ініцыятывы ёсьць у Берасьці**? Па якіх адрасах месьцяцца берасьцейскія філіі «МГ», «Грамадзянскага форуму», АГП, БСДП (НГ) і інш. 224002, Берасьце-2, Жукава 7-43

**Творчая грамада**, далучаймася — «Вольнае вогнішча» ў Бабруйску. Т.: (02251) 58-16-89, 58-32-41, 7-61-68

**кампутар**

**Кампутар** — цалкам ці па частках, новы або не — куплю. Т.: 252-44-66, Аляксандар

**кнігі, пэрыёдыкі**

**Людзі добрыя!** Пазычце хоць на тыдзень ці прадайце падручнік па гісторыі Беларусі для 10-й клясы, частка 2 (аўтар Штыхаў). Т.: 260-25-73, Альця

Хутка выйдуць: 12-ы том «Беларускага кнігазбору» — **Ажэшка «Выбранае» і анталёгія «Беларускія пісьменьнікі Польшчы»**. Т.: 220-70-27

**Калі ўмееш чытаць** ды маеш цікавасьць да літаратуры — дасылай замову: а/с 38, Наваполацак-6, 211440. Пост № 1

Ахвотныя набыць новы нумар часопісу Цэнтру Этнакасмалёгіі **«Крыўя»**, дысылайце 1 тыс. рублёў на адрас: 220050, Менск, а/с 342

Выйшлі першыя два нумары газэты Эўрапейскага Супраціву — **«Слова Нацыі»**. Пішыце. Замаўляйце. Чытайце. 220086, Менск, а/с 121

Замаўляйце газэту **«Слова Нацыі»** — выданьне нацыянал-кансэрватыўнага авангарду. 220086, Менск, а/с 121

Газэта **«Вольная Беларусь», Постмадэрн з Наваполацку** й іншыя цікавыя ініцыятывы, дашлеце, калі ласка, асобнік сёй-той вашага друку на адрас: 224002, Берасьце-2, Жукава-7-43

**Рэдакцыя «Вольнай Беларусі»** ўзнаўляе акцыю грамадзянства БНР, зьвяртацца: 210001, Віцебск, а/с 40

**«Вольная Беларусь» №3** — самы кансэрватыўны нумар. Замаўляйма, ад Вас — капэрта са зв/а 210001, Віцебск-1, а/с 40

**Беларускую Біблію,** Эвангельле, духоўную літаратуру куплю. Т.: 226-42-63.

**праца**

**Польская мова: пераклады**. Пасьля 17-й. Т.: 236-63-14, Алена

**Беларус (39)** шукае часовай працы за мяжой. Т.: (0163) 47-00-84, Віктар

**Запрашаю старшаклясьніцу, студэнтку**, што жыве ля старога аэрапорту, па выходных пыласосіць кватэру. Прашу тэлефон. 220065, Менск, а/с 4

Дапамагу пачаць **свой бізнэс** у хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Ад вас кап. са зв/а + купон б/а. А/с 122, 220089, Менск-89

**В/а праца** ў хаце (ад 200 у.а. у месяц). Ад Вас: купон б/а + капэрта. 230013, Горадня-13, вул. Касманаўтаў 100, а/с 123

**ровар**

**Ровары** «Турыст» і «Старт-шаша» б/у танна прадаю. Т.: 226-42-63

## паштовая скрынка

**Юр'ю Ч. зь Пінску.** *Ня любім мы пісаць пра сэмінары й конкурсы сачыненьняў. Ня тыя гэта навіны, зь якіх паўстае Беларусь. Дый дробныя, ня вартыя нацыянальнай газэты самі падзеі — калі толькі зь іх не відаць шырэйшага кантэксту, калі не выбудоўваецца вакол іх гісторыя. Эканамічнае ж паведамленьне неглыбокае, суцэльна нэгатывісцкае, без канкрэтыкі.*

**Ігару Б. з Варшавы.** *Ёсьць у самім факце правядзеньня пікету «Маладога Фронту» ў Варшаве падстава для глыбокага задавальненьня геаграфічным становішчам Вашай арганізацыі. Словамі ж пра «абарону са зброяю ў руках» лепш не раскідацца — да надта многага яны абавязваюць.*

**Ганьне С. з Койданава.** *Адрас, які Вы просіце: (Vaš Adrasat) 166-34 Gothic Drive, Jamaica, New York 11432, USA.*

**Сержуку Р. зь Бярозы.** *Дык нічога ж не было. Пра што пісаць? Лепш напішэце пра тых падлеткаў, што трымалі плякат «Смерть БНФ». Хто яны, што яны? З вайсковага гарадку ці тутэйшыя? Чаму на іх у суд ніхто не падаваў? Што думае пра справы ў Бярозе Ніна Мацяш?*

**Дзякуй усім** *за лісты падтрымкі «Нашай Нівы» ў яе судовым змаганьні.*

**НАША НІВА** КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________


«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Сакратар-рэфэрэнт Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук.
**Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.**
**Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.**
© **НАША НІВА.** Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3761. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 23:23, 14.05.2000. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 2387. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Дыспэтчарска рэдакцыйны адрас Менск, Бабруйская 19/36